ISSN 0320-7579

# БЯРОЗКА

№ 5/2016 (1056)

№ 5

ПАДАРУНАК ВЫПУСКНІКУ
ВІНШАВАЛЬНЫ ТРОХКУТНІК ЖАДАННЯЎ

ТАЛІСМАН ВІКІНГАЎ:
ЯК СТВАРЫЦЬ

ДЗІВОСНЫЯ ПЕРАТВАРЭННІ

Фота Маі Рабцавай

# Цікавае пра знаёмых

*Музей прыроды і экалогіі Беларусі прадстаўляе*



Вялікая белая чапля занесена ў Чырвоную кнігу Рэспублікі Беларусь. Раней забівалі птушак, каб атрымаць пер'е, якім упрыгожвалі сукенкі і капелюшы. Да гэтага часу колькасць вялікіх белых чапляў так і не адноўлена.





Гіль звычайны. Калі самец і самка аднаго віду адрозніваюцца колерам, пер'ем і памерамі — гэта праяўленне палавога дымарфізму. Самцы большыя, грудка ў іх ярка-ружовага колеру. Гілі звычайныя прылятаюць да нас на зімоўку з Паўночнай Еўропы.

Ніводнага каляровага пяра, але як цудоўна спявае гэтая птушка. Салавей усходні — лепшы спявак у птушыным царстве. Навукоўцы падлічылі, што ў салаўінай песні сорак кален. Калена — гукаспалучэнне, якое паўтараецца. Спявае самец — вабіць самку ў шлюбны перыяд. Дарослы салавей дае майстар-класы маладым. Яны падлятаюць, гадзінамі слухаюць і паўтараюць гукі, але з першага разу ў іх не атрымліваецца. Гняздо салаўі будуюць на зямлі ў кустах, дзе вільготная глеба.



Сойка — птушка-перасмешніца. Яна можа імітаваць любыя гукі: можа мяўкаць, як кошка; гаўкаць, як сабака; кудахтаць, як курыца. Калі сойка селіцца каля вёскі ў лесе, яна гэтыя гукі чуе штодзённа. Яна нават можа імітаваць гук матора. Птушка вельмі любіць пераймаць. Усё пачутае сойка выкарыстоўвае ў сваёй песні.

*Дзе іх можна ўбачыць: Мінск, вуліца К. Маркса, 12.*

# Мая школа

Бягу па знаёмай сцяжынцы ў новенькіх туфліках, а перад вачыма хутка-хутка праносяцца кадры найцікавейшай кінастужкі, дзе галоўныя героі — я і мой шумны цікавы клас.

Вось у мяне самыя вялікія стужкі ў доўгіх валасах і незвычайна прыгожы чысценькі касцюмчык. Рукі займае вялізны букет для першай настаўніцы. Партфелік цісне плечы, але я нізавошта не аддаю яго маці: свая ноша не цягне! А ноша — самы сапраўдны скарб: яркія ручкі і алоўкі, каляровыя сшыткі, незвычайныя кніжкі і яшчэ шмат чаго вельмі важнага, што прывядзе мяне ў казачную краіну, якая прытаілася за чарадзейнымі сценамі школы.

Вось нехта з аднакласнікаў-свавольнікаў моцна тарганув мяне за касу, і я бегла ўслед за крыўдзіцелем з надзеяй адпомсціць, пакуль не выцялася каленам аб асфальт. Мне вельмі балюча і крыўдна, хочацца плакаць, але ж я ўжо дарослая, ды і такая мокрая справа — сорам перад аднакласнікамі. І я цярплю, і пакутую моўчкі.

А вось школьная зала, прыбраная ярка, урачыста. У нас вялікае свята. Мы павінны радавацца, весяліцца... А мне чамусьці вельмі сумна і нават страшна. Чаму? Таму што мы развітваемся з першай настаўніцай, сваёй другой маці. Як жа цяжка апынуцца без яе апекі і цёплага слова. Што чакае нас у сценах старшай школы? Якія настаўнікі сустрэнуць нас у розных кабінетах? Страшна...

На шчасце, усё складваецца вельмі добра: утульныя класы, ветлівыя настаўнікі, такія розныя, але ўсе такія ўважлівыя, мудрыя. Кожны з іх імкнецца зрабіць наша незвычайнае падарожжа насычаным і непаўторным. Цікава...

Вось панесліся школьныя незабыўныя святы, на якіх я голасна спяваю, чытаю вершы, удзельнічаю ў конкурсах, атрымліваю ўзнагароды. Колькі сяброў побач! Колькі радасці і святла ахутвае сэрца. Мяне цягне ў гэты чароўны дом, у маю любую школу.

Я апынаюся сярод лепшых вучняў і ўдзельнічаю ў алімпіядах, інтэлектуальных конкурсах. Мне давяраюць настаўнікі такую адказную справу. Як мне прыемна! Радасць і гонар перапаўняюць сэрца, а разам з імі — вялікае хваляванне, пачуццё адказнасці, жаданне не

*Выпускнікам-2016 прысвячаецца*

Фота Маі Рабцавай

падвесці старанных настаўнікаў, якія ўкладваюць у мяне шмат ведаў і душы.

Колькі разоў хацелася блiснуць перад настаўнікамі і вучнямі сваімі трывалымі ведамі! Але ж траплялiся і такія горкія хвіліны, калі вельмі хацелася ператварыцца для настаўніка ў непрыкметнае стварэнне, бо дамашняе заданне чамусьці аказвалася нявыкананым.

Успамінаюцца экскурсіі і падарожжы, якія вельмі часта арганізоўвала для нас лепшая настаўніца, нястомны, творчы класны кіраўнік. Мы зліваліся з прыродай, мацнела наша сяброўства. У цікавых гульнях, у вясёлых песнях ля вогішча, у спартыўных спаборніцтвах, у душэўных гутарках мы гартаваліся духоўна і фізічна. І ў гэтым твая заслуга, мая мудрая школа.

Колькі кніжак перачытана ў тваіх сценах! Колькі шчырых настаўнікаў ты падарыла мне. Колькі верных сяброў выгадавала, колькі таямніц незвычайных адкрыла!

Ты была мне калыскай і матуляй, храмам навукі і яркім месцам жаданых сустрэч і добрых спраў, мая шчырая школа.

І першы поспех, і першая няўдача, першая «пяцёрка» (пазней — «дзясятка») і першая заўвага, першае каханне і першае расчараванне — усё гэта адкрыла для мяне ты, мая непаўторная школа.

І вось я зноў з радасцю і хваляваннем бягу на сустрэчу з табой. Я ўпэўнена: ты з усёй шчырасцю і цеплынёй расчыніш перада мной свае шырокія дзверы, напоўніўшы паветра водарам аксамітак.

Праз тры гады мы вылецім з утульнага гнязда пад назвай «Школа» і разляцімся па свеце хто куды. Не будзе больш першых восеньскіх сустрэч, не будзе свят і хваляванняў, не будзе залівістых званкоў, цікавых урокаў і мудрых позіркаў любімых настаўнікаў. Але ж навек застанецца памяць. Яна назаўсёды зберажэ цябе, мая родная школа. Я абавязкова не раз прыйду да цябе ў госці. Я абавязкова прывяду ў твае светлыя калідоры сваіх дзяцей і ўнукаў і разам з імі кожны раз буду з хваляваннем акунацца ў самыя шчаслівыя і непаўторныя гады свайго жыцця — у краіну бясклапотнага дзяцінства, якое назаўсёды пакіну ў тваіх сценах, МАЯ ШКОЛА.

***Аляксандра Зайцава,***
***лаўрэат Магілёўскага гарадскога конкурсу юных пісьменнікаў***
***9 «Б» клас, СШ № 13, Магілёў***

Фота Маі Рабцавай

# Дарагі дружа!

Праміне колькі дзён — і ты ўжо не будзеш называцца вучнем пачатковых класаў. Але часопіс для школьнікаў «Бярозка» будзе суправаджаць цябе і далей, як гэта было з многімі пакаленнямі самых юных творчых грамадзян нашай краіны.

Віншуем цябе з заканчэннем пачатковай школы.

Будзь, калі ласка, праменьчыкам на шляху людзей! І няхай твае мары здзейсняцца!

Бярозка

**Май, 2016**

Віншавальны Трохкутнік Жаданняў

# Мой сакрэт

Адкрыю яго праз

______ гадоў

## Інструкцыя

*Перагарні старонку, дружа.*

*У сярэдні трохкутнік запішы свае мары і планы на бліжэйшыя гады — усё, чаго хочацца дасягнуць уласнай працай і з Божай дапамогай. На запіс пакладзі галінку незабудкі, ландыша або чаромхі, фрагмент суквецця бэзу або цюльпанавы пялёстак, залатое сонейка дзьмухаўца або анемону-ветраніцу — сваю любімую кветачку.*

*У верхні і ніжні трохкутнікі збяры пажаданні ад аднакласнікаў і любімых настаўнікаў.*

*Складзі Трохкутнік Жаданняў па лініях і напішы на тытуле, праз колькі гадоў ты хочаш адкрыць яго.*

# Рапуха на гарышчы


*Рагнеда Юргель*

Неяк вырашыла пачысціць ноўтбук ад усяго лішняга — справа карысная, якраз і настрой перятрэсці папкі з'явіўся. На двары ноч (а ноч для мяне заўсёды час дзеяння), у слухаўках гучыць прыемная музыка, тэрміновых спраў пакуль няма…

Як бы не так.

Вось, напрыклад, музычны альбом. І ў запасы трапіў выпадкова, і выканаўца не падабаецца, але як толькі нацэльваюся на яго мышкай і клавішай «delete», дык і прачынаецца цётачка Запаслівасць і пачынае буркацець: «Можа, калі паслухаеш і табе спадабаецца... Вокладка ж прыгожая...» І вось ужо рука, гатовая падпісаць смяротны прысуд, апускаецца. Сапраўды, хай ляжыць, мо спатрэбіцца.

З друкаванымі файламі тая ж драма. За пяць гадоў універсітэцкай вучобы смецця сабралася не на адну папку: справаздачы, практычныя работы, рэфераты, яшчэ-чагосьці-там-па-дробязі. Выкідваць шкада. Па-першае, гэтыя працы пісаліся потам і крывёю… Хоць, каго я хачу падмануць? Упартасцю, лянотай і начным інтэрнэтам. Па-другое, іх можна перадаць удзячным нашчадкам. Па-трэцяе... Усё ясна, можна не працягваць, пакідаем.

Увогуле, мой Вялікі паход супраць непатрэбнага хламу праваліўся. І два гігабайты вольнай памяці, вырваныя ў цётачкі Запаслівасці, на кампенсацыю не цягнуць. Затое ўсплыў успамін пяцігадовай даўніны: вось я сяджу на падлозе і з такімі ж пакутамі складваю ў вялізную скрынку свае багацці. Лета павінна было вось-вось скончыцца, я з'язджала на вучобу ў сталіцу, і трэба было вызваліць прастору шафы і стала для малодшай сястрычкі. Памятаю, з якой цяжкасцю выкідвала старыя сшыткі, школьныя дзённікі з традыцыйнымі пажаданнямі на лета ад аднакласнікаў, малюнкі. З кожнай рэччу быў звязаны хай маленькі, але ўспамін. Тады мне здавалася, што разам з хламам укладваю ў скрынку этап жыцця, і таму ператасоўвала рэчы, каб адразу дастаць патрэбную, калі з'явіцца такая неабходнасць.

Пяць гадоў прайшло, а неабходнасць не з'явілася. Скрынка засталася на гарышчы.

У тэлефоне — нумары людзей, якім ніколі не пазваню.

У запісной кніжцы — адрасы, на якія не напішу.

У шафе — адзенне на выпадак з разраду «ну, а раптам?»

Галаву нездарма называюць гарышчам — столькі непатрэбнага і незразумелага там захоўваецца. І калі прыходзіць жаданне пачаць новае жыццё, чхаць на стэрэатыпы ды іншае-іншае-іншае, цётачка Запаслівасць выкладае радок успамінаў: «Вось, глядзі. І супакойся. Бачыш — гэта твае комплексы, ты іх гадавала з пятага класа. А гэта — няўпэўненасць, без яе ты будзеш адчуваць сябе няёмка. Так што сядзі і кінь гэтыя смешныя выбрыкі, нікуды ты ўжо не дзенешся».

І зноў успамінаецца скрынка на гарышчы. Вось бы пакласці туды саму сябе, забыцца на пяць гадоў, а потым вярнуцца і добранька ператтрэсці. Прыбраць лішняе. Пачысціць свядомасць, як жорсткі дыск. Думаю, вольнага месца апынецца нямерана.


Сяргей Грудніцкі, СШ № 66, Гомель

# Што рабіць, калі на вуліцы дрэннае надвор'е?

*За акном дождж? На вуліцы бруд і слота? Не спяшайся загразнуць у інтэрнэце і сацыяльных сетках, ёсць ідэі лепшыя. Якія? Зараз падумаем, што можна рабіць, застаючыся ў хаце.*

**Генеральная ўборка,** калі, вядома ж, ёсць жаданне. Вытры пыл, выкіні непатрэбныя рэчы (ці засунь іх кудынебудзь далей), навядзі парадак на кніжных паліцах і працоўным стале, перабяры назапашаныя постары і замяні імі больш старыя варыянты, якія ўжо паспелі паднадакучыць... Дарэчы, зрабі ўсё магчымае, каб твой пакой ператварыўся ва ўзорна-паказальнае жыллё, пры адным поглядзе на якое ў душы будзе прачынацца гонар за твае стаpaнні.

**Што мне снег, што мне спёка, калі сябры недалёка!** Ну, хай вас і падзяляюць адлегласці, яны не перашкода для сяброўства. Што табе не дае патэлефанаваць блізкаму чалавеку або напісаць sms (пра інтэрнэт мы дамовіліся, пакінем яго для наступнага разу)? Баланс мабільнага на нулі? Чым не нагода скласці ліст на паперы — гэта нават лепш: уяві, як здзівіцца і будзе рад(а) сябар (сяброўка), атрымаўшы пасланне, напісанае ад сэрца! Такія паведамленні сёння сустракаюцца рэдка, таму з гадамі цэняцца больш і больш.

**А я сяджу, чытаю на акне.** А дакладней на падаконні, пры ўмове, што яно неабходнага памеру і вытрымлівае тваю вагу. Але нават калі па якой-небудзь з прычын ты не можаш узлезці на яго, на дапамогу прыйдзе любая зручная мяккая мэбля каля акна (пры неабходнасці можна пасунуць) — падчас дажджу цудоўны краявід. Вазьмі добрую кнігу ці абкладзіся часопісамі і пачынай асэнсавана паглынаць напісанае, не забываючы перарывацца на цудоўную карціну, якая распасціраецца за тваім акном.

Чытаючы друкаванае выданне, **знайшоў рэцэпт кексаў / піражкоў / салаты / іншай стравы**? У цябе ёсць выдатная магчымасць апрабаваць яго! І не важна, што да гэтага ты ніколі не замешваў цеста / карыстаўся духавой шафай / разбіваў сырыя яйкі (о так, гэта цэлае майстэрства!) — прыйшоў час выпрабаваць сябе ў ролі кулінара! Акрамя таго, што ты прыемна здзівіш родных, яшчэ і атрымаеш які-ніякі вопыт у новай для цябе справе. Хто ведае, раптам ты захочаш яго развіць?

**Жадаеш на некалькі гадзін вярнуцца ў свет дзяцінства?** Тады зазірні ў пакой малодшага брата ці сястры. З гэтымі маленькімі шэльмачкамі ты дакладна не засумуеш, а наадварот — ад душы павесялішся і ўспомніш той час, калі хадзіў у дзіцячы садок. Твой мілы сваяк прапануе кучу варыянтаў гульняў на выбар, абы ты правёў з ім час. Ён — паўнавартасны сябар, з якім можна падурэць і забавіцца. Да таго ж, сумеснае баўленне часу згуртуе вас як сям'ю, асабліва калі да забаў далучацца бацькі.

*Як бачыш, і дома ёсць чым заняцца. Трэба толькі падключыць фантазію і не ўпадаць у хандру. Прыйдзе час, і ты з вялікай асалодай будзеш расказваць сябрам аб сваіх хатніх прыгодах, галоўнае — не сядзець склаўшы рукі, калі на першы погляд здаецца, што рабіць няма чаго. Удачы!*

# Вучымся граць на гітары: парады ад самавучкі



*Маргарыта Гайдаржы,*
*11 клас,*
*Аляхновіцкая СШ,*
*Маладзечанскі раён*

Я шчэ год таму я з зайздрасцю глядзела якасныя «каверы» на вядомыя песні. Выконвалі іх звычайныя падлеткі пад гітару. «Як яны гэта робяць?», «Цікава, колькі вучыліся ў музычнай школе?», «У мяне ніколі б так не атрымалася» — думалася мне. Але ўжо зараз я з лёгкасцю бяру «барэ» і падбіраю акорды на слых. Як самастойна навучыцца граць на гітары — пра гэта хачу распавесці.

## ТРЭНІРОЎКІ, ТРЭНІРОЎКІ, ТРЭНІРОЎКІ…

Настройвайся на тое, што навучанне зойме ўвесь твой вольны час. Як бы дзіўна ні гучала, але каб навучыцца граць на гітары, трэба насамрэч граць на ёй. Некалькі гадзін кожны дзень — і ты сам не заўважыш, як хутка асвоіш гэту справу.

## ВУЧЫСЯ З СЯБРАМІ

Гэта не толькі прадуктыўна, але і вельмі весела. Мы вучыліся разам з сяброўкай. Вельмі хваляваліся, калі ўпершыню гралі нашым агульным знаёмым. Але ім спадабалася. А яшчэ мы здымалі забаўныя відэа, якія і зараз з задавальненнем пераглядаем.

## ГРАЙ ТОЛЬКІ ТОЕ, ШТО ТАБЕ ПАДАБАЕЦЦА

Не важна, слухаеш ты рок ці поп-музыку. У інтэрнэце ёсць шмат акордаў на ўсе густы. Пагадзіся, любімую песню граць прыемней.

## ГЛЯДЗІ ВІДЭАЎРОКІ

Зараз на YouTube шмат каналаў, дзе даюць анлайн-урокі. Я раю наведаць GitaristTV. Там ты сапраўды знойдзеш шмат карыснай інфармацыі: акорды, табы, дасканалыя разборы самых розных песень. Тым больш, урокі выкладае вельмі таленавіты і прыемны хлопец.

## НЕ САРОМЕЙСЯ СПЯВАЦЬ

Пачаткоўцы чамусьці саромеюцца спяваць. Але гэта вельмі важна, бо навучыцца граць на гітары — гэта яшчэ паўбяды, а навучыцца пад яе спяваць — справа куды больш складаная. Так што не хвалюйся, а спявай.

### СЛОЎНІК

***Табы*** *— схематычны запіс музыкі, які прымяняецца для клавішных і струнных інструментаў.*

***Цюнер*** *— прыстасаванне для наладжвання музычнага інструмента.*

***Барэ*** *— спецыяльны прыём ігры на гітары і некаторых іншых музычных інструментах, калі ўказальны палец левай рукі адначасова заціскае некалькі струн на грыфе.*

## СПАМПУЙ ЦЮНЕР НА ТЭЛЕФОН

Умець правільна наладзіць інструмент павінен кожны гітарыст. Але не абавязкова рабіць гэта на слых, дастаткова толькі спампаваць цюнер сабе на смартфон.

І галоўнае: не апускай рукі, у цябе ўсе атрымаецца. Палова знакамітых рок-музыкантаў — самавучкі: Джымі Хендрыкс, Эрык Клэптан і іншыя. Дык што ж перашкаджае табе? Поспехаў, будучы гітарыст!



Святлана Сітнік, псіхолаг

# Вучыся адмаўляць






Мастачка Юлія Усава

***Як гэта важна — умець адмаўляцца ад таго, што табе зусім не патрэбна, і сказаць іншаму чалавеку «не». Напрыклад, сяброўка заве цябе на шпацыр, а ў цябе свае планы на вечар. Ці знаёмы ўгаворвае пакурыць, а ты катэгарычна супраць. Ці суседка па парце мае звычку тузаць цябе ў час кантрольнай, каб ты ёй дапамагла, — не дае сканцэнтравацца на заданні і атрымаць найлепшую адзнаку. Прыкладаў, калі ёсць нагода сказаць «не», мноства, але чаму нам так складана гэта зрабіць?***

Страхаў шмат, і кожны з іх дыктуе свае правілы. Напрыклад, страх «Я баюся, што яна пакрыўдзіцца і перастане са мной размаўляць» навязвае правіла такое: «Каб не сапсаваць адносіны з сяброўкай па парце, рабі кантрольную і за яе таксама». Ты нервуешся: «Маці зноў будзе сварыцца за дрэнную адзнаку», пазбаўляеш сябе поспеху: «Я, напэўна, магла б напісаць кантрольную нашмат лепш», перажываеш і злуешся: «Калі ж яна перастане мяне чапаць», але нічога не можаш зрабіць — страх навязвае табе сваё правіла.

Ці вось яшчэ прыклад. Страх «Я баюся, што хтосьці ўбачыць, што я не круты» дыктуе: «Заўжды выглядай крутым, нахабным, смелым, не будзь слабаком і размазнёю». Часта хлопчыкі (і дзяўчаты таксама), якія паддаюцца такому страху, не могуць сказаць «не» тым, хто бярэ іх «на слабо»: «А слабо табе папаліць? Ты што, не круты?», «І што матуля? Табе не ўсё роўна, што яна скажа? Забудзься ты пра гэтае прыбіранне, пойдзем лепш патусім».

Ты можаш сам падумаць, які страх кірую табою, вымушаючы згаджацца з тымі, з кім ты не згодны, рабіць тое, што не хочацца рабіць, быць там, дзе ты не павінен быць. Давай даследуем разам страх «Я баюся паказацца не такім, якім мяне прывыклі бачыць». Напрыклад, я ствараю ўражанне добрага і чулага чалавека, які заўсёды спяшаецца дапамагчы аднакласнікам (асабліва калі ім неабходна

спісаць дамашняе заданне), заўсёды гатовы дапамагчы сябрам (паўдня прасяджу ў «Вконтакте», паспрабую палепшыць сябру настрой, калі ён сапсаваны).

«Заўсёды будзь такім, і ўсё будзе добра»? Але ты заўважаеш, што ўсё не так добра: настрой сябра такі ж дрэнны, як і заўсёды, і ты зноў пралазіў паўдня ў інтэрнэце і не зрабіў свае справы. Ты разумееш, што твой час пайшоў на вецер, сябар прызвычаіўся скардзіцца табе на жыццё і нічога не хоча мяняць. Але сказаць яго скаргам «не» і замест іх паглядзець вясёлае кіно табе перашкаджаюць страхі «Я баюся здацца дрэнным: нядобрым, бессардэчным» і «Я баюся, што ён пакрыўдзіцца, сапсаваць з ім адносіны».




Нашы страхі — нашы ворагі: яны перашкаджаюць нам рабіць так, як мы хочам. Разумей свае страхі, даследуй і пераадольвай. Так, зрабіць гэта складана, але ў адказ ты атрымаеш свабоду. І не толькі ад страхаў, але і ад іншых людзей, якія хочуць выкарыстаць цябе, бо гэта цяжка толькі першы раз. Вось адна з гісторый.

— Я пазнаёмілася з Лёшам на адной тусоўцы, — расказвае Вольга. Не зважаючы на тое, што мне 14, а яму 19, мы знайшлі агульныя тэмы і доўга размаўлялі. Ён лічыў мяне вельмі разумнай і цікавай, нават не паверыў, што мне 14, і мне гэта, безумоўна, прыемна. Потым мы перапісваліся ў нэце, некалькі разоў стэлефаноўваліся. А потым… Ён даслаў sms, у якой прызнаўся, што кахае мяне. Ён прызнаўся, што вельмі пакутуе, што я адзіны чалавек, які разумее і падтрымлівае яго, што я вельмі класная дзяўчына. Але ж у мяне да яго няма ніякіх пачуццяў. Ні-я-кіх. Для мяне ён звычайны знаёмы, і сустракацца з хлопцам (тым больш такога ўзросту) я не хачу. Я доўга думала, як мне правільна зрабіць.

Вольга ўспомніла сваіх сябровак, якія сустракаліся з хлопцамі. «Яны пачыналі сустракацца і сябраваць толькі таму, што іх хлопцы ім гэта прапаноўвалі, а не таму, што яны самі хацелі сустракаца і сябраваць. А адна з сябровак стала сустракацца толькі таму, што баялася пакрыўдзіць чалавека, які сказаў ёй пра свае пачуцці».

— Я разумела, што маё рашэнне будзе бязлітасным, але няўжо не жорстка даваць Лёшу надзею? Ці мець зносіны з ім, калі не адчуваеш ніякіх пачуццяў? Унутры сябе я вымавіла: «Твае пачуцці — гэта твае пачуцці. Ты можаш кахаць, але мне не патрэбна тваё каханне. І я адмаўляюся ад яго. Дзякуй, але мне яно не патрэбна». Я адказала яму штосьці невыразнае і выключыла гук. Я не здымаю тэлефон, часам адказваю на sms. Я шчаслівая, што не ўцягнулася ў гэта, што засталася вольнай. «Дзякуй, але мне гэта не патрэбна» — выраз-выратаванне! Ён дапамагае мне ў шматлікіх сітуацыях. Напрыклад, калі мне прапануюць папаліць, я так і адказваю: «Дзякуй, але мне гэта не патрэбна. Я за здаровы лад жыцця». Ці калі сяброўка хацела прыехаць да мяне і «завіснуць» на выхадныя, я адмовіла ёй: «Дзякуй, што ты хочаш праводзіць свой час са мной, але так доўга мне не трэба».

Нягледзячы на тое, што ў Вольгі шмат сяброў, яна застаецца вольнай, бо ўмее сказаць «не».

Не людзі вымушаюць цябе рабіць тое, што хочуць яны, а твае страхі.

*Мастачка Юлія Усава*

# Руны
## Як зрабіць талісман вікінгаў

***Іх лёгка зрабіць з паперы, драўніны, тканіны. Але наймацнейшую энергетыку маюць руны з жывёльнага матэрыялу. Яны з'яўляюцца больш абярэгам, чым прыладай для варажбы.***

Трэба набыць тоўстую трубчастую костку нагі буйной рагатай жывёлы (лепш выкарыстоўваць костку задняй галёнкі, таму што адзін яе бок дастаткова прамы і мае зручную таўшчыню для далейшай апрацоўкі); наступныя сталярныя прылады: пілу, нож з доўгім тонкім лязом, напільнік, наждачную паперу рознай зярністасці, разец і прыладу для крывалінейнага распілу (напрыклад, лобзік). Таксама спатрэбяцца трывалая фарба, тонкі пэндзаль, лінейка, аловак, ёмісты рондаль, харчовая сода, шмат вольнага часу і фізічнай сілы.



*Аддзяліць ад косткі з дапамогай пілы кавалкі з храсткамі і губчатай тканкай, ачысціць ад астаткаў мяса і тлушчу. Доўгім лязом ачысціць унутраную паверхню косткі. Яна павінна выглядаць, як гладкая кароткая труба. Чым больш старанна выдалены тлушч, тым акуратнейшая атрымаецца руна.*



*Пакласці чыстую костку ў рондаль, заліць вадой і паставіць на слабы агонь на 3—4 гадзіны. За гэты час два разы змяніць ваду. З косткі павінен перастаць выдзяляцца тлушч. Пасля зноў заліць чыстай вадой, усыпаць 200—300 г харчовай соды, паставіць на агонь, а пасля закіпання зняць і дастаць костку, каб астыла. Прамыць халоднай вадой і пакінуць сушыцца на адзін дзень.*

Руны — магічныя літары.
Больш за тысячу гадоў таму на тэрыторыі Паўночнай Еўропы рассяліліся моцныя і ваяўнічыя плямёны. Яны называліся вікінгамі. Іх гісторыя і культура сёння адна з найбольш папулярных. Іх пісьменнасць, заснаваная на мёртвых еўрапейскіх мовах, уяўляецца магічнай.


*Распілаваць костку ўдоўж.*


*Адзначыць на палове косткі прамавугольнікі прыкладна 3х2 см і распілаваць.*

*Значэнне рун і іх магічнае дзеянне чытайце ў праекце «Бярозка плюс» на www.maladost.lim.by/berezka*


*Напільнікам закругліць вострыя вуглы прамавугольнікаў, падагнаць да больш прывабнай формы. Апрацаваць напільнікам па перыметры, пасля з усіх бакоў наждачнай паперай (спачатку — буйной зярністасці, пасля — дробнай). Падчас апрацоўкі руны даводзяцца да прывабнага, гладкага выгляду.*


*Алоўкам нанесці выявы.*

Руны — гэта літары старажытнага алфавіту, якім карысталіся народы ад Грэнландыі да Германіі на працягу тысячы гадоў. Гісторыя кожнага сімвала — гэта складаная сувязь культуры і рэлігіі. У даўнія часы лічылася, што прадмет, на які нанесена руна, набывае ўласны характар і містычную сілу.

*Стальным разцом правесці ўздоўж намаляванай руны, зрабіць паглыбленні, што паўтараюць абрысы выявы.*



Руну можна проста кінуць у кішэню «на шчасце». А можна прасвідраваць адтуліну, працягнуць шнур і сплесці бранзалет.



*Запоўніць паглыбленні фарбай, пачакаць поўнага высыхання малюнка. Самай дробнай наждачнай паперай апрацаваць паверхні руны, каб загладзіць шурпатасць і надаць бляск.*

Універсальнай руны («на агульнае шчасце») няма. Кожны знак адхіляе напрамак энергіі да асобнай, вызначанай толькі для канкрэтнай руны, мэты.

Напрыклад, ты пачаў займацца спортам. Спачатку адчуваеш радасць ад трэніровак, але з цягам часу цікавасць сыходзіць. Магчыма, ты перастаў бачыць вынікі або заняткі спортам пачалі перашкаджаць іншым справам. І вось табе нехта з сяброў раіць пакласці ў кішэню паперку з выявай двух трохвугольнікаў, злучаных аднолькавымі вугламі, або намаляваць на руцэ такі сімвал. Маўляў, гэта дапаможа вырашыць пытанні. Ты сам яшчэ не разумееш, як гэта працуе, але да парады сябра прыслухаўся. І амаль адразу заўважыў, што пытанні здымаюцца, што атрымліваецца сумяшчаць справы, прыходзіць задавальненне ад фізічных нагрузак. Такім чынам, амулет плюс твой уласны энергетычны настрой вырашылі праблему.

Вядома каля дзесяці рунічных алфавітаў. Найбольш распаўсюджаны — старажытнагерманскі так званы старэйшы Футарк. Слова «Футарк» паходзіць ад назваў першых шасці рун: Феху, Уруз, Турысаз, Ансуз, Райда, Кеназ.

Мае значэнне, як руна размешчана. Арыентацыя малюнка павінна дакладна паўтараць вышэйпрыведзеныя, інакш набывае іншы, часам супрацьлеглы сэнс.

Для варажбы дадаюць яшчэ адну руну — руну Одзіна, гэта чыстая руна, на ёй няма знакаў. Яна азначае нявызначанасць і чысціню лёсу.

Нялішне будзе нагадаць, што рунічны знак, напрыклад, для выдатнай вучобы, працуе больш надзейна, калі рэгулярна выконваць хатняе заданне. А талісман на поспех сярод дзяўчат прынясе больш карысці хлопцу, які сочыць за чысцінёй сваёй вопраткі і карыстаецца толькі цэнзурнымі словамі.

***Ліна Чарняўская***

# Румза



Аркаша, прывід

Страшныя гісторыі з нумара ў нумар

Вася хаваўся ў парку. Ну, не зусім хаваўся, проста прагульваў кантрольную па фізіцы: апошнюю ў гэтым навучальным годзе. Дадому ісці было нельга — бабуля, сама былая настаўніца, ні за што не дапусціла б такога разгільдзяйства, і нават рэальная пагроза нечаканая сапсаваць гадавую «васьмёрку» не паўплывала б на яе рашэнне. Таму Вася проста спакойна сядзеў на лаўцы ў бязлюдным месцы гарадскога парку, слухаў дабстэп і паважна чакаў трох гадзін, калі можна будзе вярнуцца, не асцерагаючыся наступстваў.

У парку было добра: ужо па-летняму буйная зеляніна клапатліва хавала прагульшчыка ад травеньскага сонейка, ветрык аднекуль даносіў водар кветак чаромхі, музыка ў слухаўках навявала прыемныя думкі пра блізкасць вакацый.

Ідылія парушылася нечаканым чынам: за лавай, на якой адпачываў Вася, пачуўся горкі дзявочы плач, ды такі гучны, што прабіваўся скрозь вуркатанне дабстэпа. Вася трывожна павярнуўся, зазірнуў за спінку лавы. Дзіўна, але там нікога не было. Хлопчык сцепануўся: ён выразна чуў плач, і быў упэўнены, што той, хто рыдаў за яго спінай, не мог уцячы так хутка. Зрэшты, плач пачуўся зноў, гучаў цяпер дзесьці збоку. Вася ўстаў, выняў навушнікі, прыслухаўся. Здаецца, плакалі непадалёк, за кустом язміну. Ісці туды вельмі не хацелася, але плач станавіўся больш горкім, больш безнадзейным...

Вася падышоў да кустоўя, рассунуў галінкі. Зноў усё сціхла. Зразумела, за кустом таксама нікога не аказалася. Раззлаваўшыся на самога сябе, хлопчык рашуча павярнуўся да лаўкі. Зрабіў некалькі крокаў і здрыгануўся: на яго месцы сядзела худзенькая бледная дзяўчынка з рудымі валасамі. Вочы яе здаваліся ці то хворымі, ці то заплаканымі. Складвалася ўражанне, што сядзіць яна тут ужо даўно, хоць хвіліну назад паблізу не было відаць нікога!

— Гэй, гэта ты плакала? — спытаў Вася.

Дзяўчынка сумна кіўнула.

— Мяне не пускаюць у бібліятэку, — сказала яна. — Кажуць, абанемент не дзейнічае. Ты дапаможаш мне вярнуць кнігу?

Вася няўцямна глядзеў на дзяўчынку: яна гаварыла з ім, нібы са старым знаёмым, хоць ён мог паклясціся, што ніколі яе раней не бачыў.

— Тут недалёка, — працягвала дзіўная румза. — Дзіцячая бібліятэка нумар восем. Аддай, скажы, што Наста Зарэчная вярнула.

Яна працягнула яму томік Гогаля — замурзаны і палінялы, як быццам той захоўваўся доўгія гады ў сырым склепе. Вася машынальна ўзяў кніжку. Ледзь разабраў выцвілую назву — «Вечары на хутары ля Дзіканькі».

„ Заканчэнне страшнай гісторыі чытайце ў праекце «Бярозка плюс» на www.maladost.lim.by/berezka



# Анхела Эспіноса Руіс: «Ненавіджу прагматызм»

*Напэўна, няма чалавека ў нашым літаратурным асяродку, які б не ведаў пра Анхелу Эспіносу Руіс. Гэта беларускамоўная іспанка. Тры гады таму яна пачала вучыць беларускую мову, два гады таму яе вершы надрукаваў часопіс «Маладосць», брат «Бярозкі». Сёння Анхела мае паэтычны зборнік, прыхільнікаў і, зразумела, крытыкаў. І, дарэчы, пачала вучыць ірландскую мову. Пра Анхелу не хочацца казаць банальнае. Таму лепей пра сябе раскажа яна сама. За кубкам зялёнай гарбаты са смачным печывам…*

## ПРА ГАРТАВАННЕ ІНТРАВЕРТНАЙ НАТУРЫ

— Ёсць такі стэрэатып, што андалусы вельмі пацешныя, экспрэсіўныя. «О, ты з Андалусіі, ну давай, жартуй!» Я інтраверт. Бацькі вельмі актыўна займаліся маёй сацыялізацыяй, каб я не была замкнёнай у сабе, каб умела размаўляць з людзьмі. У нас у Іспаніі, калі ты, напрыклад, стаіш у чарзе па хлеб і не падтрымліваеш гутарку бабулек, якія тут жа, у чарзе, то ты ці некультурны, ці неадэкват. Як гэта, бабулькі стараюцца, а ты ў навушніках і іх не слухаеш. З намі жыла бабуля, таму ў мяне была пастаянная практыка.

Напэўна, ёсць акрамя мяне такія, хто, стоячы ў чарзе ў краме, пра сябе прагаворваюць: «Адзін батончык хлеба, калі ласка, адзін батончык хлеба, калі ласка», — а потым не могуць гэта вымавіць. Вось я такая. І мяне адпраўлялі ў краму, прымушалі казаць, што трэба, пыталіся: «Скажы мне, як ты папросіш?» Мая мама педагог і псіхолаг, таму ведала, што рабіць. Казала мне: «Слухай, трэба быць ветлівай да ўсіх. Не трэба сябраваць з усімі, але варта камунікаваць, бо гэта спатрэбіцца ў жыцці». Камунікацыі можна навучыцца, калі займацца. І калі акалічнасці прымушаюць вучыцца. Інтраверт-славіст у Іспаніі не выжыве.

Я вучылася ў школе, дзе было шмат так званых «гопнікаў». Але гэта ішло на карысць, бо я заўсёды была ў меншасці ці адна. Вельмі цаню гэты досвед, бо я цяпер мацнейшая, чым была б, калі б мяне ўсе любілі. Сама я прыхільная, але толькі да нейкай ступені — калі бачу, што чалавек варты прыхільнасці. Заўсёды дапамагаю знаёмым, але сяброў выбіраю вельмі асцярожна, блізка стасуюся далёка не з усімі. Нават калі я стараюся быць «нармальнай», я не вельмі добрая акторка, таму відаць, што я нетыповая — ветлівая, але трохі дзіўная. Але я разумею, што гэта мая асоба, таму я не баюся быць бачнай і разумею, што камусьці не падабаюся.

Сёлета праводзіла другі запар дзень народзінаў у Польшчы. Знаёмы з Беларусі ў мяне пытаецца: «Табе не самотна, што ў такі дзень твае сваякі і сябры далёка?» Я кажу: «Не, мінулы дзень народзінаў я сядзела з Тарасам, гэта мой сябар з Украіны, а сёлета прыедзе Максім». Гэты знаёмы, ведаючы, як шмат я чытаю, падумаў, што ў мяне няма рэальных сяброў, таму я кажу як пра рэальных пра Тараса Шаўчэнку і Максіма Багдановіча.

## ПРА ПРЫЗЕМЛЕНАЕ І ЎЗНЁСЛАЕ

— Мяркую, практычнае стаўленне да жыцця павінна быць, але калі пакінуць толькі гэты бок, існаванне будзе вельмі сумнае. Я ў рэінкарнацыю не веру, лічу, што жыццё ў нас адно, і трэба атрымліваць найбольшае задавальненне і старацца нешта зрабіць. Паважаю людзей з іншым меркаваннем, але я хачу нешта напісаць, што застанецца пасля мяне, больш-менш каштоўная спадчына. Ёсць людзі, што пішуць імя ў прыбіральні: «Я тут быў», у мяне тое самае.

Каб мець плённае жыццё, трэба ведаць, хто ты, адкуль ідзеш і куды. Гэта пытанні, якіх большасць баіцца, пазбягае, бо трэба часова перастаць займацца прагматычнымі справамі і падумаць. Я вельмі люблю адзіноту. Шмат хто баіцца яе, бо даводзіцца быць самім сабой. Менавіта таму такія папулярныя гаджэты — бо з імі ты не адзін. Я не баюся сябе — гэта станоўчая рыса ў жыцці інтраверта. Гэта непрактычна, але калі чалавек жыве спакойна, займаецца сваімі справамі, ездзіць на працу — ён забываеццся на філасофскія пытанні.

Мяне, як і Максіма Багдановіча, хацелі зрабіць юрыстам: «Ты пішы, калі хочаш, але паступаць лепш на "права". А славістыка — гэта што такое?» Вельмі паважаю людзей, якія ведаюць права, бо я наўрад ці атрымала б гэтую спецыяльнасць. Хацелі з мяне зрабіць дыпламата, бо мовы ведаю. А я не, я на філалогію. Калі ты любіш тое, што робіш, калі ёсць здольнасці, заўсёды будзе нейкая праца.

## ПРА МОВУ

— Беларуская мова — ключ да ўсіх славянскіх моў. Часта ў мяне пытаюцца, якая практычная карысць ад беларускай мовы. Я не вельмі практычны чалавек, карыснага нічога не ўмею рабіць, толькі пісаць вершыкі і граць на піяніна. Але як для філолага для мяне беларуская мова — цэнтральная з усіх славянскіх. Калі я на добрым узроўні пачала ведаць яе, то стала разумець і ўсе славянскія пасіўна. Для мяне беларуская мова — гэта вельмі прэстыжна, я вельмі задаволеная, што паступіла.

Трасянка — тое, што здараецца, калі я стараюся размаўляць па-руску. Па-іспанску я таксама размаўляю з акцэнтам: у Мадрыдзе, напрыклад, адразу зразумеюць, што я з Поўдня. У Іспаніі ёсць свая трасянка — спангліш, які мае нават два віды. З філалагічнага пункту гледжання для мяне цікавыя людзі «без роднай мовы» — якія ні адну добра не ведаюць. Трасянка — гэта інтэрлінгва, а не мова, бо няма літаратуры на ёй, няма зафіксаваных правілаў. Ёсць людзі, якія толькі інтэрлінгву і ведаюць, для мяне гэта дзіўна.

Дарэчы, іспанцы вельмі сароменюцца размаўляць на замежных мовах, а я не. Памятаю, мы ездзілі ў Ліён вялікай групай, пайшлі ў «МакДональдс», усе саромеліся зрабіць замову, і я павінна была пайсці і купіць… 15 бургераў. У нас у школах тэарэтычны падыход да моў. Але гэта мяняецца.

## ПРА ЛІТАРАТУРУ

— Я напачатку нават не старалася нідзе друкавацца, не мела амбіцый быць вядомай. Проста хацела вывучыць мову. Хоць я амбітная: тое, што я раблю, я хачу рабіць дасканала. У мяне вельмі высокія стандарты, якіх я ніколі не дасягаю. Але гэта добра, што я ніколі канчаткова не задаволеная, іначай спыніўся б прагрэс.

У мяне мала цярпення. Я пішу вершы, бо яны кароткія. Ёсць і кароткія апавяданні. Ёсць планы пра раман. Я хачу пісаць фантастыку, каб галоўным героем была дзяўчынка, і каб гэта было неяк звязана з паэзіяй. Гэта будзе свет, дзе паэты могуць змяняць рэчаіснасць, толькі не прыдумала, як гэта будзе на паперы. Яшчэ нарадзілася думка напісаць баладу пра тое, як Дон Кіхот з'ездзіў у Беларусь, каб было смешна, па-філасофску і цікава. Я такая, што ў мяне заўсёды вельмі шмат праектаў, некаторым трэба чакаць, а некаторыя адразу здзяйсняюцца.

Я чытаю ўсё, дзе бачу надрукаваныя літаркі. Бацькі хваляваліся, бо яшчэ ў дзяцінстве кнігі, якія дзецям не павінны падабацца (не каляровыя), я магла ўзяць ды прачытаць. Трэба было небяспечныя кнігі трымаць высока, што дагэтуль са мной эфектыўна. Я чытаю ўсё, цікаўлюся і класікамі, і сучаснымі аўтарамі (такімі сучаснымі, што ведаю іх асабіста). Падабаецца іспанская паэзія мінулага стагоддзя, проза першых двух дзесяцігоддзяў таго ж перыяду. Падабаецца французская паэзія, асабліва сімвалізм: Бадлер, Рэмбо, Верлен. Я пачала перакладаць іх на іспанскую. Гэта пачалося з таго, што ў школе ў нас быў курс сусветнай літаратуры, а Бадлер у нас не вельмі якасна перакладзены, я зрабіла свае пераклады, яны спадабаліся, і мы пачалі працаваць па іх, а мне было 17. Мне тэлефанавалі з Мадрыда, прапанавалі перакласці творы Максіма Багдановіча на іспанскую да стагоддзя яго смерці.

## ПРА КРЫТЫКУ

— У мяне ёсць вельмі добрыя знаёмыя і сябры, якія дапамагаюць з моўнымі пытаннямі, што ўзнікаюць у кожнага пісьменніка, асабліва напачатку. Калі я пачала вершы пісаць, шмат заўваг мне давалі пра рыфмы. У нас у Іспаніі распаўсюджаны сілабічныя вершы, у адрозненне ад сілаба-танічных тут. Калі ўлічваць, што тры гады таму я ўвогуле не ведала беларускай мовы, то першая кніга, якую я выдала ў мінулым годзе, з'явілася вельмі хутка. Усё ж людзі хочуць, каб было прыстойна, каб не прыходзілася потым, гадоў праз дзесяць, шукаць увесь наклад і паліць.

Я сама не крытыкую моцна іншых і не люблю неканструктыўную крытыку, калі кажуць: «У цябе ўсё кепска, не пішы ўвогуле». Навошта так? Тым больш у беларускай літаратуры, дзе шмат хто пераходзіць з рускай мовы на беларускую. Мне не падабаецца, калі ўпікаюць за трасянку тых, хто пачынае размаўляць па-беларуску. Людзі, якія жывуць у краінах са шматмоўем, часта знаходзяцца пад уплывам абедзвюх моў, на якой бы не размаўлялі. Калі чалавек размаўляе хутка, вельмі натуральна, што праскокваюць словы з іншай мовы. Ніхто не размаўляе на літаратурнай мове, пры жывой гутарцы людзі не дагаворваюць сказы, губляюцца, жартуюць. Гэта не акадэмічная праца, дзе ўсё павінна быць правільна. Я лічу, што жорстка крытыкаваць — контрэфектыўна. Мой метад — папраўляць незаўважна, у працэсе размовы, не засяроджваючы на гэтым увагі. Галоўнае — не граматыка, а камунікацыя.

***Кацярына Захарэвіч***

# Жонэманжпасісжур!

Што, не зразумелі мяне? А я, між іншым, па-французску тут выказваюся! Насамрэч, я думаю, што шмат хто з вас пазнаў выраз, які я змясціла ў назве. Калі не, то нагадаю, што гэта словы Кісы Вараб'янінава, героя фільма «12 крэслаў». Перш чым перакласці вам тое, што ён казаў, раскажу адну цікавую гісторыю. Адна дзяўчына ляцела ў самалёце французскіх авіяліній, але не ведала французскай мовы. Ёй раптам вельмі захацелася есці і, падазваўшы сцюардэсу, яна паспрабавала жэстамі і мімікай замовіць сабе абед, але яе не зразумелі. І тады на дапамогу прыйшоў адзін выраз, які яна ведала па-французску: «Жонэманжпасісжур!»

Здаецца, атрымалася! Сцюардэса пачала ківаць галавой, усміхацца, папрасіла прабачэння за нешта, а потым прынесла двайную порцыю, ды яшчэ і з дэсертам! «Якое шчасце!» — падумала дзяўчына. «Бедная», — падумала сцюардэса. А ўсё таму, што перакладаецца гэты выраз так: «Я не ела шэсць дзён».

Цікава, што выразы з кінафільмаў ці мульцікаў адразу запамінаюцца і вельмі доўга трымаюцца ў нашых галовах, амаль што не церпячы зменаў! Паспрабуйце падлічыць, колькі маналогаў ці нават дыялогаў з любімых фільмаў вы ведаеце? А ўсё ад таго, што мы лягчэй і хутчэй запамінаем тое, што падаецца ў лёгкай форме. Да таго ж, тут працуе не толькі працэс запамінання, але і працэс асэнсавання — мы спрабуем гэта зразумець.

Адсюль паўстае такая ідэя — чаму б не вывучаць замежную мову па фільмах? У сеціве можна знайсці шмат сайтаў, дзе фільмы на англійскай і французскай мовах маюць рускія і нават беларускія субцітры. У гэтым метадзе шмат плюсоў!

Па-першае, гэта цікава і вельмі прыемна! Згадзіцеся, нашмат прыемней, чым вучыць мову па падручніку. І можна глядзець навінкі амаль адразу, бо цітры з'яўляюцца хутчэй за поўнагалосныя пераклады.

Па-другое, гэта цудоўная магчымасць адчуць сябе сапраўдным англічанінам! Акцёры будуць размаўляць хутка і часам зусім не так, як нас вучылі ў школе. У іх можа быць незвычайная інтанацыя, цікавае вымаўленне, але можна быць упэўненым — менавіта так размаўляюць на англійскай (ці на французскай) мове як на роднай.

Па-трэцяе, гэта будзе добрым «трэнажорам». Калі дзіця толькі вучыцца чытаць, то спачатку яно чытае па літарах, потым па складах, а ўжо пасля па словах і словазлучэннях. Гэтак і з намі, калі мы вывучаем іншаземную мову. Спачатку мы разумеем словы паасобку, потым словазлучэнні, а ўжо потым — сказы і выразы цалкам, адразу. Згадзіцеся, калі глядзіш фільм, можа падацца цяжкім услухоўвацца ў кожнае слова, а таму мы вучымся ўспрымаць сказы цалкам, больш па агульным сэнсе, чым па значэнні асобных слоў. А да таго ж, слоўны запас папоўніцца самымі нечаканымі і незвычайнымі словамі, якія вы ніколі не сталі б шукаць у слоўніку.

…Мая бабуля заўсёды пытаецца: «Ну якая табе карысць з таго, што ты гэтыя свае фільмы глядзіш увесь час?» Дык вось, даражэнькія, калі ў вас таксама не было добрага адказу на гэты конт — запрашаю далучыцца да маіх моўных практыкаванняў, і тады замест «жонэманжпасісжур» вы здолееце замовіць сабе ў самалёце апельсінавы сок і шакаладнае піролжнае.

***Паліна Грыб***

# Пад дахам душы

***Калі пераглядаеш мультфільм «Вожык у тумане», ловіш сябе на думцы, што хочацца сабраць торбу і адправіцца да мядзведзя: піць гарбату з малінай і лічыць зоркі. Збегчы ад вялізнай колькасці спраў і рознагалоссяў. Ды акалічнасці вышэй за ўсё, і наўрад ці ў каго-небудзь знойдзецца знаёмы мядзведзь.***
***Але рашэнне ёсць. Калі вам надакучыў ваш свет, то ўцякайце. Самае бюджэтнае падарожжа, як вядома, — у кнігу.***







Напрыклад, у сонечную і таямнічую Барселону Карласа Руіса Сафона. Я, як і любая іншая Марына, набыла яго кнігу «Марына».

Іспанія. Вясна. Адзін з дзяжурных на Французскім вакзале пазнае ў натоўпе юнака, абвешчанага ў вышук. Цэлы тыдзень яго шукалі знаёмыя, сябры, выкладчыкі школы-інтэрната. Паліцыя збілася з ног. Дзе ён быў увесь гэты час? Як правёў гэтыя дні?

А пачаўся аповед са слоў галоўнага героя, Оскара: «У кожнага з нас ёсць сакрэт, старанна зачынены на ўсе замкі ў самым цёмным куце на гарышчы пад дахам душы». Лезеш на сваю гару і ў першыя хвіліны нічога не знаходзіш. Потым ён дадае: «Я адкрыю вам свой». У сэнсе сакрэт. Гэта прапанова і становіцца пачаткам вашай прыгоды з Марынай і Оскарам.

На працягу таямнічай гісторыі сапраўды адчуваеш сябе трэцім героем. Перажываеш страты і няўдачы, радасці і неверагодны страху, любіш і ненавідзіш.

Марына — загадкавая, казачна прыгожая, дзіўная. Яна малюецца нам такой са слоў Оскара.

Оскар — звычайны пятнаццацігадовы хлопчык. Праўда, часам здаецца, што яму сем. А каму з вас не сем пры сустрэчы з дзяўчынай? Але часам даеш яму ўсё трыццаць тры! Менавіта ў гэтым узросце Карлас Руіс напісаў «Марыну», якая не проста стала зборнікам загадак і містыкі, але і паднесла чытачам некаторыя (значныя) урокі. Так, прачытаўшы, вам прыйдзецца засвоіць, што «час жыцця — адзіная

трывалая валюта ў сістэме каштоўнасцяў», і што «Часам казаць праўду — далёка не лепшы выхад».

Не менш таямнічым і павучальным з'яўляецца раман Карласа Руіса Сафона «Цень ветру», дзеянні якога таксама разгортваюцца ў Барселоне. Але зараз у цэнтры падзей — дзесяцігадовы хлопчык, які расце на нашых вачах. Ён на працягу дваццаці гадоў спрабуе разгадаць таямніцы, звязаныя з нейкай кнігай, што неспасціжным чынам змяняе жыццё тых, хто да яе датыкаецца.

***Пчолы ўспрымаюць і распазнаюць пахі ў тысячу разоў лепей за чалавека. Напрыклад, яны могуць адчуць водар кветкі за кіламетр. А каб назбіраць кілаграм мёду, пчала павінна абляцець аж два мільёны кветак, бо за адзін палёт яна прыносіць у вулей усяго толькі 40—50 міліграмаў нектару.***

Некаторыя кажуць, што «Цень ветру» — гэта кніга пра кнігу. Я не згодна. «Кніга», вядома, адыгрывае важную ролю ў апавяданні, але больш важныя ў ім героі, намаляваныя аўтарам.




Сярод маіх сяброў ёсць прыхільнікі творчасці Сафона. І апісваючы сюжэт яго кніг, яны кажуць: «...А далей было яшчэ цікавей!» Вось і я прачытала «Марыну» і «Цень ветру», а далей было яшчэ цікавей! Калі ў рамане «Цень ветру» элементы звышнатуральнага былі зыбкімі і няпэўнымі, то ў «Гульні анёла» прысутнічае цэлы набор містычных падзей — гэта дэманічнае паходжанне і звышнатуральныя здольнасці герояў, матыў вечнага жыцця, уваскрашэння, будынкаў і інтэр'ераў, якія знікаюць. І ўсё гэта ў той жа Барселоне! Толькі цяпер яна завецца «горадам чараўнікоў і алхімікаў».

**Што аб'ядноўвае гэтыя кнігі?**

**1.** Аўтар. Карлас Руіс Сафон — самы папулярны з сучасных іспанскіх пісьменнікаў, кнігі якога маюць найвялікшы тыраж у краіне.

**2.** Барселона! Горад, у якім можна здзейсніць УСЁ.

**3.** Загадка. Хоць было б няправільным ўжываць гэтае слова ў адзіночным ліку. Усе главы, кожная старонка працяты таямніцамі.

**4.** Галоўная дзеючая асоба — заўсёды малады чалавек. У кнізе «Марына» — Оскар. У «Цені ветру» — Даніэль. У «Гульні анёла» — Давід. Я думаю, гэта таму, што сам Карлас належыць да моцнай паловы чалавецтва. Было б сама меней няправільна, калі б Сафон узваліў усе выпрабаванні на кволыя плечы дзяўчыны.

**5.** Паспяховасць. «Цень ветру» — самая паспяховая кніга, апублікаваная ў Іспаніі з часоў «Дон Кіхота» Сервантэса. «Гульня анёла» — кніга з самым вялікім тыражом у гісторыі Іспаніі. «Марына» — самы любімы, па ўласным прызнанні Сафона, яго раман.

***

Цікава, што знаходзіцца на вашым даху? У Вожыка, які «ў тумане», там вясёла зорнае неба — за комінам. Няхай гэта лета стане часам наведвання даху душы.

***Марына Шантыр***

# Паданне пра Нёман



На тых беларускіх землях, дзе цячэ цяпер Нёман, раней не было вялікіх і нават малых рэчак, адны толькі лясныя азёры ды копанкі.

Выдалася аднойчы там вельмі сухое лета. Сонца пякло няшчадна. Перасохлі і копанкі, і нават лясныя азёры, гінуў ураджай, у лясах не вырасла ні грыбоў, ні ягад. Аслаблі людзі ад голаду і смагі, не стала ў іх моцы хоць штосьці рабіць.

А жыў у адным з тагачасных плямёнаў хлопец, моцны, як тур. Але, на жаль, быў ён нямым, за што і трымаў ад людзей мянушку Нёма.

Вырашыў Нёма выратаваць свой род, ды і іншых людзей таксама, а для гэтага дакапацца да глыбокіх крынічных вод.

Моўчкі і цярпліва тры тыдні капаў ён зямлю, абліваючыся потам, вывaрочваў з яе велізарныя камяні. І нарэшце дамогся свайго: прабіўся з-пад зямлі невялікі струменьчык, які хуткаператварыўся ў вялікі і бурлівы паток.

Пацякла вада па ссохлай зямлі, хутка наталіла яе.

Як жа ўзрадаваліся людзі! Гэты бурлівы паток наталіў іх смагу, напаіў свойскую жывёлу, не даў канчаткова загінуць ураджаю.

А вада ўсё цякла і цякла з-пад зямлі, і паток гэты хутка ператварыўся ў вялікую раку, якая да самага мора дабегчы змагла. А шчаслівыя людзі той мясцовасці назвалі раку Нёманам, у гонар хлопца Нёмы, свайго выратавальніка.

***Серафім Раула,***
***6 клас, гімназія-каледж мастацтваў, Мінск***

# Чаму вёска Тулёнка так называецца?



Жыў калісьці на Стаўбцоўшчыне багаты пан, жонка якога была вялікай модніцай. Кахаў пан сваю жоначку непамерна, і хоць імя яе было Катарына, называў яе ласкава — мая Ка. І вельмі любіла жонка пана ільняныя сукенкі. Ткачыхі з яе фальварка штодзённа ткалі льняное палатно і шылі ёй усё новыя і новыя ўборы. Але ў тым месцы, дзе жылі гэтыя паны, ільну вырошчвалі мала, бо дрэнныя для яго былі землі і таму рос лён нейкі кволы і няякасны. Прыходзілася пану часта адпраўляць сваіх работнікаў па далёкіх вёсках, у пошуках добрага льну.

І вось аднаго разу вярнуліся пасыльныя пана, а вазы іх перапоўненыя былі вельмі якасным ільном. Пані Катарына першая выбегла з дому сустракаць прыбылых пасыльных, бо вельмі хацелася як мага хутчэй даведацца, колькі ж яе любімага льну яны прывезлі і адкуль? Падбегла яна да вазоў і не пазнала, чым гэта так загружаныя вазы.

Ляжала на іх нешта падобнае на лён, але доўгае, светлае і чыстае. Такога яна яшчэ не бачыла.

А тут і пан выйшаў з палаца. Паглядзеў ён на прывезенае дабро, узрадаваўся.

А жонка і пытаецца ў яго:

— Што тут, на вазах?

— Тут лён, Ка! — адказвае пан.

А пані пачула — тулёнка.

Павярнулася яна расчараваная, зноў у палац накіравалася.

— Тут лён, Ка! — гукнуў ёй наўздагон здзіўлены муж.

Але Катарына, засмучаная тым, што замест ільну прывезлі нейкую тулёнку, крыкнула, нават не паварочваючыся да мужа:

— Навошта мне тулёнка?!

Пан засмяяўся і пытаецца ў пасыльных:

— Адкуль, з якой жа вёскі вы прывезлі такі прыгожы лён?

— Ды там не вёска, так невялікі хутар, — адказалі яму пасыльныя. — Але глеба для льну вельмі падыходзіць.

— То мы пераедзем туды жыць, — вырашыў пан. — І пабудуем там вёску. А назавём яе Тулёнка, як мая жонка сказала.

З таго часу і існуе вёска Тулёнка, а вакол яе да гэтага часу шмат ільну вырошчваецца.

***Алена Калкоўская,***
***5 клас, Шашкоўская СШ, Стаўбцоўскі раён***

# Легенды Заслаўскага краю
## ад паэтычнага клуба «Ізяслаўцы» пры Заслаўскай гімназіі



### ЛЕГЕНДА ПРА РЭЧКУ ЧАРНІЦУ

Даўным-даўно ў горадзе Заслаўі жыла княгіня Рагнеда. Яе сюды разам з сынам Ізяславам з-пад Кіева выслаў муж — князь Уладзімір за тое, што Рагнеда хацела забіць яго, помсцячы за сваіх бацькоў і братоў.

Князь Уладзімір пабудаваў для сына горад, які стаў называцца Ізяслаўль. А цяпер мы завём яго — Заслаўе.

У Заслаўі Рагнеда прыняла хрысціянскую веру і пад імем Анастасія стала першай манашкай на старажытнай Беларусі. Яна стала асветніцай і дапамагала простым людзям.

Лёс Рагнеды быў вельмі цяжкім, а слёзы — горкімі. У час жыцця ў Заслаўі яна часта выходзіла ў поле за паселішчам і там доўга плакала. Вось так і ўзнікла паданне аб тым, што слёзы княгіні-манашкі не знікалі, а цяклі па роднай зямельцы і ператварыліся ў рэчку, якая і зараз цячэ праз мой родны горад Заслаўе. У гонар Рагнеды гэту рэчку назвалі Чарніцай, бо ў старажытнасці манашак называлі чарніцамі.

***Вікторыя Валяватая,***
***7 «А» клас***

## ЛЕГЕНДА ПРА РЭЧКУ КНЯГІНЬКУ, ШТО ПРАЦЯКАЕ ПРАЗ ЗАСЛАЎЕ

Жыла-была адна дзяўчынка,
Танюткая, нібы былінка.
Была хоць беднай, ды прыгожай —
Ёй мусіў усміхацца кожны.
І кожны, хто яе страчаў,
Княгінькай шчыра называў.

Яна кахала юнака аддана,
А той юнак халопам быў у пана.
Лёс да каханых жорсткім быў:
Аднойчы пан хлапца забіў.

Ад безвыходнасці, ад гора
Пабегла дзеўчына да бору,
Да недалёкай хуткай рэчкі,
Якая там цякла спрадвечна.
Дабегла, у ваду ўвайшла…
І больш не бачыла святла…

Праходзяць дні, гады ідуць…
Раку ж Княгінькаю завуць.

***Лізавета Скальская,***
***5 «Б» клас***

***Мёд не псуецца вельмі доўга. Вы нават можаце пакаштаваць мёд, якому тры тысячы гадоў, — і не атруціцца. А вось сучасныя батарэйкі пачынаюць губляць свае ўласцівасці адразу пасля вырабу, і тэрмін пачынаецца менавіта ад моманту выпуску, а не ад таго часу, калі батарэйкамі пачалі карыстацца.***



## АД ПРАДЗЕДАЎ СПАКОН ВЯКОЎ НАМ ЗАСТАЛАСЯ СПАДЧЫНА…

*Граюць струны душы Беларусі,*
*Іх гук з паднябесся ліецца.*
*То музыка сонца і шчасця, мусіць…*
*Цымбалы звіняць у сэрцы!*

Калі я складала гэты верш, мне міжволі ўспомнілася, як яшчэ зусім маленькая, да паступлення ў школу, я прыйшла на залікові канцэрт музычнага аддзялення нашай навучальнай установы. Старшакласнікі іграли на розных музычных інструментах, і гучанне кожнага з іх мне падабалася па-свойму. Але, калі заіграў гэты інструмент, здалося, што мелодыя даносіцца з паднябесся, як быццам іграюць самі анёлы, такой арганічнай была музыка, так незвычайна гучалі струны. Я зразумела, што хачу іграць толькі на гэтым інструменце, на цымбалах. Праўда,

тады я не ведала яшчэ, што гэта і ёсць самы беларускі з усіх музычных інструментаў і што музыка, якая гучала, вельмі беларуская. Зусім маленькая, яшчэ не асэнсоўваючы таго, я ўсё ж беспамылкова выбрала музыку менавіта свайго народа.

Але ж дзіця, як люстэрка, адлюстроўвае любоў, і калі я была пад такім уражаннем ад мелодыі, то колькі ў той павінна быць любові? Я ніколі не пашкадавала аб тым, што выбрала беларускі нацыянальны інструмент. За тыя дзесяць гадоў, што я вучылася ў музычнай школе, не раз на занятках цымбалы і радаваліся, і плакалі, і апавядалі незвычайныя гісторыі.

З цымбаламі я выступала на шматлікіх канцэртах, конкурсах у складзе інструментальнага ансамбля «Беларускі сувенір». А разам з узорным аркестрам народных інструментаў «Настрой» стала лаўрэатам 1-й ступені Міжнароднай алімпіяды «Мой свет — мастацтва!» на рэспубліканскім этапе, а на фінале Лаўрэатаў у Маскве наш аркестр атрымаў дыплом 2-й ступені. Разам з цымбаламі я нават падарожнічала.

За ўсе гэтыя гады я ўсвядоміла, што музыка, як і мова, — аснова культуры народа, што гэта і ёсць наша галоўная спадчына, якая засталася нам ад прадзедаў, дзядоў, бацькоў…

Музыка лепш за іншае мастацтва здольная выказаць думкі, жаданні, настроі, пачуцці, перажыванні — духоўны свет. Музыка захоўвае традыцыі народа, яго адметнасць, самабытнасць. Раскрывае духоўную моц і любоў да зямлі.

Асобныя старонкі гісторыі айчыннай культуры — творчасць Міхала Казіміра Агінскага, яго пляменніка Міхаіла Клеафаса Агінскага, Напалеона Орды, Антонія Генрыка Радзівіла, Станіслава Манюшкі, Міхаіла Карлавіча Ельскага. Музыка прайшла шматвяковы шлях развіцця, стала жывым летапісам, які апавядае аб далёкім мінулым і ў той жа час застаецца гучным голасам сучаснасці.

Музычная культура беларускага народа фарміравалася на працягу некалькіх стагоддзяў. Мы павінны ведаць шэдэўры, што стварыліся за гэты час, павінны звяртацца да народнай музыкі, бо ў ёй мудрасць і жыццё.

Я лічу, што кожны чалавек павінен мець музычную адукацыю, а яшчэ лепш — іграць на музычным інструменце. Па звестках жыхароў Заходняга Паазер’я, у даваенны час амаль у кожным доме былі цымбалы. Павага да гэтага інструмента ў беларусаў існавала з даўніх часоў. Напрыклад, цымбаліст Крыштанор Правінскі служыў пры дварах літоўска-беларускага князя і польскага караля Жыгімонта Трэцяга ў XVI стагоддзі. А ў п’есе «Аляксей, божы чалавек» Сімяона Полацкага ў рэмарцы аўтар кажа: «Тут цымбалы і скрыпкі граюць».

Цымбалы таксама займалі ганаровае месца ў абрадах, песнях, прыказках і прымаўках беларускага народа: «Бубен б’е, цымбалы звіняць, памагае ім дуда, без цымбалаў, без дуды ходзяць ножкі не туды».

Адным з першых, хто стаў выкарыстоўваць беларускія народныя музычныя інструменты на сцэне ў сучаснасці, быў Ігнат Буйніцкі, вядомы прадстаўнік нацыянальнай інтэлігенцыі. У спектаклях Буйніцкі выкарыстоўваў дуду, скрыпку, цымбалы. У далейшым цымбалы шмат разоў гучалі і ў народна-інструментальных ансамблях драматычнай трупы Уладзіслава Галубка.

Музыка падтрымлівае тонкую сувязь з мінулым. А хто не ведае мінулага — не мае будучыні.

***Наталля Сакалянская,***
***11 «А» клас, СШ № 43, Мінск***



# Іх служба і смачная, і гарачая

***Артур Голдэн пісаў: «У кожнага чалавека свой лёс. Але навошта хадзіць да прадказальніка, каб даведацца пра яго? Хіба я пайду да кухара, каб даведацца, галодны я ці не?» Вялікі пісьменнік мо і не пойдзе, а вось я са сваёй галоднай цікаўнасцю зазірнула ў кухню аднаго мінскага кафэ, каб пагутарыць з прафесіяналамі. Пра ўсе цікавінкі прафесіі кухара — для рубрыкі «Адзін дзень».***

Кажуць, што зародкі кулінарнай справы з'явіліся яшчэ ў першабытныя часы, калі дагістарычныя людзі заўважылі, што адзін з супляменнікаў лепш за іншых спраўляецца з падрыхтоўкай ежы, і сталі заўсёды давяраць яму выкананне гэтай сацыяльнай функцыі. Вось я і вырашыла знайсці такіх «супляменнікаў» сярод нас.

Героямі майго дня сталі **Галіна** і **Кастусь**. Хоць на іх ролю прэтэндаваў і мой бацька. Калі я запыталася ў таты, ці ёсць у яго знаёмыя кухары, адказ быў просты: «Ну, я кухар, а што такое?» А тое, што яго стравы не ідуць далей сямейнага стала. Яму давялося стаць героем майго жыцця, а не «Аднаго дня».

Хтосьці перавучваецца з менеджара на лагіста, хтосьці з фізіка-ядзершчыка на праграміста, а **Галіна** — з кандытара на кухара. Розніца, здавалася б, невялікая, аднак у свеце ежы яна значная.

Кандытары людзі творчыя. Як і кухары, якія таксама гатуюць і кандытарскія вырабы, і дэсерты. Спецыялізацыя — паняцце шырокае. Парадокс у тым, што, калі я зайшла ў кухню, Галіна ўпрыгожвала марожанае, а не гатавала стэйк, напрыклад. Перавучыцца перавучылася, а ў кафэ на ёй усё роўна ляжаць абавязкі кандытара. З дэсертам працуе спакойна, не спяшаючыся выкладвае лісцікі зеляніны на страву. У гэты момант голад маёй зацікаўленасці быў задаволены, але прачнуўся страўнікавы.

Мяне спасцігла невялікае расчараванне, калі **Галіна** расказала, што «серыяльная» кухня досыць моцна адрозніваецца ад кухні рэальнай: «У нас усё больш спакойна, без запалу, нават сумнавата. На экране ж агонь, нажы лётаюць, нярэдка ў стравы кліентам штосьці падсыпаюць. У мяне ў практыцы ні аднаго такога выпадку не сустрэнеш». На хітрыкі яе словы не былі падобныя, здаецца, справа сапраўды невясёлая.



## ПЛЮСЫ ПРАФЕСІІ

**1.** Кулінар ніколі не будзе галодным. Напрыклад, у тым кафэ, што я наведала, на абед «творцаў» адводзіцца пэўны час, ім гатуюць асобную ежу. Але **Кастусь** прызнаўся: «Да абеду я ўжо сыты».

**2.** У добрых кухараў высокі ўзровень аплаты працы.

Топ самых вядомых і высокааплатных шэф-кухараў свету ўзначальвае Джэймі Олівер з Брытаніі, ён атрымлівае каля 2.100.000$ у месяц. У Беларусі, вядома, такі заробак здаецца нерэальным. Але інтэрнэт-партал praca.by прапануе вакансіі кухара з заробкам ад 6,5 млн руб.

**3.** Чалавек, які ўмее смачна прыгатаваць і старую падэшву, — запатрабаваны!



## МІНУСЫ ПРАФЕСІІ

**1.** «Я стамляюся, — кажа **Галіна**, — шмат разоў хацела ўсё кінуць».

Праца сапраўды не з простых. «Увесь дзень каля пліты ў шалёным рытме», — гучыць як выклік.

**2.** Кухня = стрэс. **Кастусь**: «У кожнай стравы свой час падрыхтоўкі. Напрыклад, рыба запякаецца 40 хвілін, і раней гэтага часу я ніяк не змагу яе прыгатаваць. А тут яшчэ афіцыянты бегаюць і спяшаюцца. Яны так «ціснуць»!»

**3.** Падчас працы немагчыма расслабіцца. Патрабуецца пастаяннае напружанне ўвагі, трэба сачыць за падрыхтоўкай многіх страў. Нашы героі выказвалі свае каментарыі падчас гатавання страў.

**4.** Ёсць рызыка атрымаць траўмы: кухары працуюць з вострымі і гарачымі прадметамі і любы непрафесійны рух небяспечны.

Калі «за» і «супраць» прафесіі некага не напалохалі, тады «рэцэпт»: да чаго быць гатовым тым, хто заўсёды марыў валадарыць каля пліты. Будзьце гатовы…

…у першую чаргу, вучыцца! Неабходна атрымаць спецыяльную адукацыю. Ёсць платныя курсы кухараў, ёсць кулінарныя тэхнікумы і нават ВНУ — Маскоўская дзяржаўная акадэмія харчовых вытворчасцяў.

…да стасункаў з незадаволенымі кліентамі. **Кастусь** паведаміў: «Быў адзін непрыемны выпадак. Выклікалі ў залу і кажуць, што соус «не таго» колеру. Я ім патлумачыў, што «Тартар» і павінен быць белым, але наведвальнік ідавочна не хацеў плаціць — «казна» кафэ папоўнілася за мой кошт».

…да крытыкі родных. **Галіна** ўсміхаецца: «Галоўны мой крытык — сын! Яму заўсёды не хапае солі і цукру. Кажа, што прафесіяналам такія дробязі недаравальныя».

…да таго, што Масква не адразу будавалася і шэф-кухарамі з каледжа не выходзяць. Давядзецца прайсці праз «церні» дзіцячага садка, там звычайна адпрацоўваюць два гады.

Артур Голдэн таксама пісаў, што «немагчыма ўцячы ад таго, што ўнутры вас». Унутры мяне першая станоўчая, і збегчы ад яе немагчыма. А калі нейкая частка вашага «я» перыядычна прымярае кухарскі каўпак, то вам альбо ў Мінскі дзяржаўны прафесійна-тэхнічны каледж кулінарыі, альбо да ўрача. Але ўцячы немагчыма!

***Марына Шантыр***



# У царкве з Лізай Ліпай



Вы зайшлі ў храм. Не варта адразу саромецца сваёй некампетэнтнасці і баяцца непаразуменняў. Трэба вучыцца адчуваць сэрцам, а не розумам. Спачатку можна не зразумець абрады і мову богаслужэння, але з цягам часу ўсё выправіцца.

У праваслаўнай традыцыі вернікі выстойваюць на нагах усю службу. У некаторых храмах крэслаў увогуле няма, у некаторых яны могуць стаяць паабапал — для тых, хто мае ў іх асаблівую патрэбу. У любым выпадку, калі вам вельмі цяжка стаяць, можна прысесці.

Людзі ў храме часта асяняюць сябе крыжам — пры згадванні Святой Тройцы, пры падыходзе да крыжа або абраза і яшчэ шмат разоў на працягу богаслужэння. Няхай не здаецца, што гэта даступна толькі «пасвячоным» і вы зробіце нешта не тое. Будзьце спакойныя, вам неабавязкова пасяваць хрысціцца адначасова з кімсьці, хто стаіць побач.

Мы хрысцімся правай рукой справа налева. Складаем пальцы асаблівым чынам: вялікі палец, указальны і сярэдні злучаюцца (складзеныя разам, яны сімвалізуюць Святую Тройцу), безыменны палец і мезенец прыціскаюцца да далоні (сімвалізуючы дзве прыроды Ісуса Хрыста, а таксама Яго сыходжанне на зямлю).

Цалаванне абразоў — гэта не «паганскі знак». У гэтым няма магіі, ёсць толькі выказванне глыбокай павагі да першавобраза, які іканапісец адлюстраваў на дошцы. Простае параўнанне: калі мы бяром у рукі фотаздымак дарагога чалавека і цалуем яго, мы, вядома, не проста цалуем паперу з адбіткам, а выказваем імкненне душы. Тое ж і з царкоўнымі святынямі.

У храме ёсць два віды падсвечнікаў: «за здароўе» (круглай або многавугольнай формы, яны стаяць практычна перад кожным абразом) і «аб спачыне» (прамавугольнай формы, размяшчаюцца звычайна перад вялікім крыжам — «Распяццем», дзе служыцца паніхіда — асаблівая малітва «за спачын»). Трэба падысці да падсвечніка, асяніць сябе крыжам, у думках вымавіць просьбу «за здароўе» ці «за спачын» душы чалавека, за якога ўзносіцца малітва. За сябе таксама можна паставіць свечку. Запальваем яе ад іншай запаленай. Не бойцеся, калі вы пераблыталі і паставілі «за здароўе» на падсвечнік «за спачын» — Гасподзь заўсёды разбярэцца, аб кім вы маліліся.

У рэдакцыю зайшоў малады чалавек і перадаў некалькі лістоў, атрыманых некалі ад ім ад хроснай. «Мяне яны прымусілі іначай глядзець на жыццё. Мо яшчэ каму спатрэбяцца», — сказаў юнак і пайшоў. А лісты засталіся. Мы вырашылі іх надрукаваць.



**Ікона Мікола (фрагмент). 1751 (Манаграміст М. В.). Нацыянальны мастацкі музей.**

*Прывітанне, мой дарагі хрэснік!*

*Ты, напэўна, здзівіўся, атрымаўшы мой ліст. Мяркую, ты і канверта дагэтуль у руках не трымаў. Але па зваротным адрасе зразумеў, што піша твая хросная, цётачка Кіра.*

*Я вінаватая перад табою. Бо некалі цябе хрысціла, але нічому не навучыла. А чаму я магла навучыць, калі сама вось толькі цяпер зразумела, што праваслаўная хіба толькі завуся. А звацца вернікам і быць ім — не адно і тое.*

*Сёння ў нас свята — дзень памяці Свяціцеля Мікалая Цудатворца. Мой муж бурчыць: «У вас, праваслаўных, што ні дзень — свята». А як жа іначай, калі за дзве тысячы гадоў Царква Хрыстова столькі святых выявіла. А Мікалай Цудатворац — святы, асабліва паважаны ва ўсім свеце. І хоць нарадзіўся і служэнне сваё нёс у старажытнай Лікіі, а завуць яго часта Міколам рускім, бо нідзе не любілі яго так моцна, як на Русі. Не было і няма ніводнага храма, каб побач з абразамі Госпада і Божай Маці не знайшлося б абраза Мікалая Цудатворца. І ў кожнай хаце быў яго абраз. А колькі па ўсёй зямлі праваслаўнай Свята-Нікольскіх храмаў! Думаеш, проста так? Асаблівы Угоднік Божы — Свяціцель Мікалай. Чым ён, ты пытаешся, дагадзіў Богу?*

*Інтэрнэтам ты валодаеш лепей, чым я. Сам пра Мікалая Цудатворца звесткі знайсці можаш. Калі захочаш.*

*Скажу табе чэсна: яго жыціе, як мне здавалася, я ведала, і акафісты (калі бяда-патрэба прымусіць) чытала, але толькі цяпер зразумела, што не на тое звяртала ўвагу. Галоўнае ў яго жыціі толькі цяпер зачапіла: «З Хрыстом і Божай Маці гаварыў». Разумееш? Не проста ў думках, не толькі ў малітвах, а рэальна! Як я з мужам гавару, як ты з бацькамі сваімі, так Свяціцель Мікалай — з жывым Хрыстом і Багародзіцай размаўляў!*

*Як трэба было маліцца, як шукаць Хрыста, як прагнуць сустрэчы з Ім, каб знайсці, сустрэцца і пагаварыць! Пагаварыць з Ім асабіста!*

*Усё астатняе — другаснае, пасля. Так, Свяціцель Мікалай дапамагаў бедным, ратаваў дзяўчат-жабрачак ад ганьбы, мёртвых уваскрашаў, на Усяленскім Саборы веру праваслаўную адстаяў, буры ўціхамірваў, шмат цудаў здзейсніў. Усё так. Але галоўнае — любоў да Бога. У Бібліі сказана: «Знайдзіце Бога, і жывая будзе душа ваша».*

*Вось і я табе гавару, што лічыцца вернікам і быць ім не адно і тое. Той, хто называе сябе вернікам, ведае пра Бога. Ведаць нескладана. Любы вучань нядзельнай школкі ведае ўсе Евангельскія гісторыі і запаветы. Ведаць запаветы — гэта*

*адно, а выконваць — іншае. Мы ведаем галоўны запавет: «Палюбі Госпада Бога свайго ўсім сэрцам», а святыя гэты запавет выканалі. Мы толькі ведаем пра Бога, а жывём — дзеля сябе і ўласных задавальненняў. А хто па-сапраўднаму верыць, хто любіць Бога, той жыве дзеля сустрэчы з Ім.*

*Беражы цябе Бог. Ведаю, адказ мне не напішаш, але прашу: не адпрэчвай, не паспрабаваўшы. Падумай: для чаго ты жывеш? Ці дзеля Каго? Пытанне коштам як жыццё.*

*Малюся за цябе, мой дарагі. І ты за мяне, грэшную, памаліся.*

***Твая хросная.***
***22 мая.***

***Ад рэдакцыі.** **У Мінску — два Свята-Нікольскія храмы, у Брэсце — два. Ёсць яны ў Бабруйску, Навагрудку, Лагойску, Станькаве, Свіслачы... У Гомелі і Магілёве — Свята-Нікольскія манастыры ... Мо ты ведаеш гісторыю свайго Свята-Нікольскага храма і хочаш яе расказаць? Мо ў тваёй сям'і здарaліся выпадкі цудадзейнай дапамогі Свяціцеля Мікалая? Або маеш ужо ўласны досвед малітвы? Што ты думаеш пра сэнс жыцця? Для чаго ты з'явіўся на Зямлі? Пытанняў шмат. Выбірай любое і пішы нам адказ на яго — так, як разважыць сэрца. Чакаем тваіх гісторый на bjarozka@zviazda.by.***

Размалёўка

# У гасцях у хроснай



# Я — МАСТАК

# № 5

## У выпуску:



Адкрыта запрашэнне для мэтраў сучаснага выяўленчага мастацтва ў рэдакцыйную калегію

Я ведаю мастацтва

# «Паўстанне рыбакоў на возеры Нарач» Віталя Цвіркі

Поспех мастака Віталя Цвіркі тлумачыцца наяўнасцю таленту, а галоўнае — вялікай працавітасцю і энергіяй. Яго творчы шлях быў доўгі і цікавы, насычаны рознымі падзеямі і сустрэчамі, нястомнымі пошукамі ўласнай мастацкай мовы — мовы вобразаў і адкрытых пачуццяў.

Аматарам мастацтва Віталь Цвірка вядомы пераважна як пейзажыст. Мастак стварыў вялікую колькасць жывапісных палотнаў і акварэляў, прысвечаных беларускай зямлі. Ёсць у мастацкай спадчыне знакамітага творцы партрэты і нацюрморты, а таксама сюжэтна-тэматычныя кампазіцыі. Зварот да шматфігурных палотнаў на гісторыка-рэвалюцыйную тэму для Віталя Цвіркі быў непрацяглым, але многія карціны, створаныя ў гэты перыяд, дапамаглі яму ў зацвярджэнні сябе як мастака. Адна з іх — «Паўстанне рыбакоў на возеры Нарач», прысвечаная нацыянальна-вызваленчай барацьбе беларускага народа.

Спакон веку Нарачанскае возера было сродкам існавання для тысяч рыбакоў. Усё змянілася са з'яўленнем закона 1932 года аб нацыяналізацыі рэк і азёр, якія забаранялі рыбны промысел. Беларускі паэт Максім Танк так засведчыў гэтую падзею: «Зімой 1934 г., пехатою вяртаючыся дадому з віленскага астрогу, з "Лукішак" <…> на адной з рыбацкіх хат я пабачыў загад польскага ўрада, які забараняў



Віталь Цвірка. «Паўстанне рыбакоў на возеры Нарач» (1957)

Эскіз. Фрагмент



рыбакам лавіць рыбу ў Нарачы і ва ўсіх іншых азёрах, права на якія перадавалася арандатарам. Вясной і летам 1935 г., калі ўрад пачаў рэалізаваць свае планы, — на Нарачы падняўся бунт рыбакоў, які галосным рэхам пракаціўся па ўсіх азёрах Віленшчыны, Палесся і нават польскага Памор'я». Праз некаторы час Максім Танк амаль дакументальна асвятліў усе падзеі бунту ў сваёй паэме «Нарач».

Зацікаўлены гэтай тэмай Віталь Цвірка прыехаў у Заходнюю Беларусь, на возера Нарач, каб на свае вочы ўбачыць мясціны, некалі насычаныя духам вызваленчай барацьбы. Тут ён стварыў цэлую серыю эцюдаў, якія дзякуючы маляўнічаму гучанню сталі самастойнымі творамі.

Пасля паездкі на возера Нарач мастак прыступіў да грунтоўнай працы над карцінай. Ён надаў асаблівую ўвагу вырашэнню задач, звязаных з выяўленнем праўдзівых і пераканаўчых вобразаў. Вядома, што апанаваныя роспаччу нарачанскія рыбакі неаднаразова звярталіся да польскіх улад, каб пацвердзіць сваё права на карыстанне возерам. Але ў тых заўсёды знаходзіліся прычыны адмовіць рыбакам ва ўласнасці. Менавіта пачатак бунту становіцца галоўнай падзеяй, якую ўвасабляе мастак.

З Нарачы выплыла сонца.
Лодкі да сонца плылі.
Біліся хвалі аб вёслы,
Пеніліся і гулі.
Дзеці, жанчыны, старыя
Сёння на бераг прыйшлі
З віламі, з пешнямі.
Сталі, чакаюць,
калі
Новыя выплывуць лодкі.

Маладыя хлопцы, мужчыны сабраліся бараніць свае правы. Яны рыхтуюцца да рыбнай лоўлі, нягледзячы на забарону, якую агучвае афіцэр. Стаўленне Віталя Цвіркі да гэтай падзеі прачытваецца адразу, праз яркі кампазіцыйны кантраст: асноўную частку палатна займаюць паўстанцы-рыбакі, а паліцэйскім мастак свядома аддае вельмі мала месца. У рухах рыбакоў адчуваюцца смеласць, рашучасць.

Ва ўнісон іх бунтарскаму, мяцежнаму настрою ў бясконцым асяроддзі воднай прасторы развяваюцца беласнежныя ветразі — сімвалы свабоды і барацьбы.

Яркія індывідуальныя вобразы нарачанцаў аб'яднаны агульнай мэтай вызвалення свайго адзінага сродку існавання ад вераломнага захопу. Сярод паўстанцкага натоўпу асабліва вылучаецца фігура рыбака ў чырвонай кашулі. У яго загарэлым мускулістым целе адчуваецца фізічная моц, якая ўвасабляе магутнасць з'яднанага народа. Гэты вобраз канцэнтруе асноўны змест карціны. Вядома, што ў першапачатковых эскізах рыбак мае белую кашулю. На шматзначны чырвоны мастак замяняе колер таму, што белая кашуля відавочна зліваецца з белымі ветразямі. У колеры кашулі прасочваецца сувязь з беларускай традыцыйнай духоўнай культурай, згодна з якой, чырвоны сімвалізуе супраціўленне прыгнёту, жыццёвую моц. Жывапісец вельмі сур'ёзна ставіўся да расстаноўкі колеравых акцэнтаў і дэталяў.

Каля праглядзець эскізы да твора, можна заўважыць, як трансфармавалася кампазіцыйная задума. Спачатку галоўны герой знаходзіўся далёка ад астатніх рыбакоў, але пасля мастак ставіць яго ў лодку, набліжаючы да паўстанцаў. Прыкметна зменшылася адлегласць паміж паліцэйскімі і рыбакамі. Цяпер іх супрацьстаянне ўспрымаецца з відавочнай перавагай апошніх. Суцэльная група бунтароў ушчыльную набліжаная да афіцэра, што сведчыць пра адвагу і непахіснасць рашэння змагацца.

Асаблівае месца ў «Паўстанні…» займае выява жанчыны з дзіцем. Мастак адлюстроўвае жанчыну з вялікай жыццёвай праўдзівасцю. Ён выразна перадае трапяткія пачуцці маці, з якімі яна абдымае дзіця, клапоцячыся пра яго будучыню. Жанчына з непрыязнасцю назірае за набліжэннем атрада.

Трэба адзначыць, што Віталь Цвірка вельмі старанна перадаў эпоху паўстанцаў. Яе рысы ярка праявіліся ў адзенні жанчын. Саматканыя кашулі, андаракі, хусткі — усё праўдзіва адлюстроўвае быт беларусаў 1930-х гадоў.

Па эскізах бачна, што Віталь Цвірка напачатку планаваў паказаць цэлую шарэнгу польскіх салдат. Аднак у выніку ён толькі робіць намёк на іх прысутнасць, уводзячы з левага краю палатна салдата з вінтоўкай. У гэтым прыёме выяўляецца ўменне жывапісца творча пераасэнсаваць рэчаіснасць і адысці ад залішняй ілюстрацыйнасці.

Акрамя насычаных каляровых плям, мастак расстаўляе акцэнты з дапамогай святла і ценю. Тут яму значна дапамагла доўгая праца з натуры на Нарачы. Дзякуючы працяглым назіранням за светлавымі зменамі, Віталь Цвірка прыйшоў да больш поўнага раскрыцця сваёй тэмы з дапамогай светлавога кантрасту паміж групамі паліцэйскіх і рыбакоў.

Жывапісец раскрывае складаны ўнутраны свет рыбакоў, лёс якіх напоўнены пакутамі і расчараваннем. Разам з тым у іх тварах няма засмучэння і разгубленасці: толькі ўпэўненасць у справядлівасці сваёй барацьбы.

Свабоду і незалежнасць духу мастак цаніў вышэй за ўсё, таму і прысвяціў свой твор тым, у кім была прыніжана чалавечая годнасць. Менавіта за гэтую праўдзівасць і высокае мастацкае майстэрства «Паўстанне рыбакоў на возеры Нарач» прызнана каштоўным творам беларускага выяўленчага мастацтва 1950-х гадоў.

***Ганна Быкава***



# Трэба крыху адчуваць страх і стрэс
## Уладзімір Сайко

***Дарога ў майстэрню не такая і блізкая. Ёсць магчымасць зайсці ў краму і выбраць разам з вучнямі пэндзлі. Гэта не дзівацтва, а звычайныя сяброўскія адносіны, якія павінны быць у настаўніка і тых, каго ён вучыць, — так лічыць Уладзімір Сайко.***

Сам мастак пад азначэнне «звычайнасці» падпадае цяжка. Майстру няма і дваццаці пяці гадоў, а яго карціны ўжо знайшлі прызнанне ў розных месцах Беларусі. Хлопец працуе ў «нямодным» кірунку рэалізму, аднак яго работы ведаюць больш чым у дзесяці замежных краінах. Ён адзін з арганізатараў мастацкай супольнасці «Абуджэнне», мае сваю майстэрню, дзе другі год вучыць маляваць людзей розных прафесій і ўзростаў. Зрэшты, лепей запамінаецца не спіс узнагарод, а энтузіязм самога мастака. Ён перакананы, што з культуры можна стварыць культ, а мастака пракормяць яго работы.

## ВЫХОДЗІЛІ З ЭЦЮДНІКАМ НА ПОЛЕ БОЮ

Заняткі ў майстэрні праходзяць як у групах, так і індывідуальна. Малююць вучні у пакоі, на вуліцы, падчас паездак на раённыя майстар-класы і нават на платформе у метро — паводле меркавання Уладзіміра, так можна цалкам разняволіцца, адчуць сябе творцам паўсюдна.

**— Ці ёсць у вас нейкі прынцып адбору вучняў?**

— Перш гляджу на вочы. Цяжка патлумачыць, што там можна ўбачыць: жаданне працаваць, памкненне, запал, раўнадушша... Потым выбіраю тактыку і развіваю ў патрэбным кірунку. Па работах жа нічога не зразумела: можа, ён гэта маляваў, а можа і не — адкуль ведаць?

**— Гэтыя паездкі за фарбамі, пэндзлямі... Такая апека над кожным вучнем?**

— Гэта сапраўды апякунства. Я магу іх пажурыць за тое, што шапку не надзелі ў мароз, або расказаць, як рамантуецца аўтамабіль. Ды і як іначай, калі часта вандруем па іншых гарадах. Бывалі ў Валожыне, Мазыры, Брэсце, ладзілі там выставы. Мне некалі не хапала такога «гартавання характару», калі можна стаяць побач з настаўнікам і пісаць эцюд проста на рэканструкцыі поля бою часоў Першай сусветнай вайны, калі міма праносяцца коннікі, наступаюць войскі. Настаўнік таксама становіцца прыкладам. Я хачу, каб мае вучні выраслі





*Эцюды Уладзіміра Сайко*

нармальнымі людзьмі, каб навучыліся выжываць у лепшым сэнсе гэтага слова. Тлумачу, што патрэбна мастаку і ад чаго давядзецца адмовіцца.

**— А сапраўды, ад чаго мастаку трэба адмаўляцца і што набываць?**

— Адмовіцца ад таго, што называюць фанабэрыстасцю, манернасцю. Гэтае наўмыснае ўзвялічванне сябе можа толькі смяшыць. Мастак — такі ж чалавек, толькі ўмее крыху больш і хоча паказаць іншым, што ён умее. Ён не дзівак, а прыклад працы і адданасці справе. Таму трэба адмаўляцца ад пачуцця ўласнай абсалютнай і непахіснай значнасці. А вось сабранасць, імкненне да перамогі, сумленнасць трэба выхоўваць. Як і разуменне, што мастацтва — твая любімая справа, яна падтрымлівае, а не губіць цябе.

**— Якім чынам трэба ацэньваць работы?**

— Рацыянальна, калі сапраўды нешта атрымліваецца. Хоць і атмасферу неабходна падаграваць, каб не знік імпэт. Не захвальваць, а паказваць, дзе і што трэба рабіць лепей. Патрэбна сярэдняя стадыя паміж крытыкай і пахвалой.

**— Удзельнічаеце з вучнямі ў конкурсах?**

— Тут дзейнічаю па «прынцыпе кракадзіла»: калі пройдзе паблізу антылопа — чаму б не з’есці? Але ганяцца за ёй па ўсіх джунглях няма сэнсу. Мне самому даводзілася быць канкурсантам, даходзіць да фіналу, перамагаць. І я бачу, што шмат залежыць ад выпадку а таксама складу і настрою журы. Ды і псіхалагічна гэта цяжка: калі перамога — дзіця зазнаецца, бо ужо няма куды рухацца ў творчасці, яно ўжо на вяршыні. Калі ж адбракоўваюць з фіналістаў, то лёгка апусціць рукі, расчаравацца і страціць творчы запал. На мой погляд, лепшы вынік мастака — гэта выстава, калі ты яе арганізаваў і людзі прыйшлі паглядзець на твае работы. У нейкіх глабальных конкурсах можна і паўдзельнічаць, толькі не рабіць гэты ўдзел самамэтай.

## КАЛІ РЭЧКА НЕ ПАДОБНА НА СЛАНА

Пакуль падымаешся з першага паверха майстэрні на другі, позірк блукае па карцінах Уладзіміра і яго вучняў. Ёсць тут пейзажы беларускіх краявідаў, гарадскія эцюды, батальныя палотны. Да некаторых работ, як, напрыклад, партрэта дзяўчыны з доўгімі прамяністымі валасамі, хочацца дакрануцца. Зрэшты, як пасмейваецца майстар, такое жаданне ўзнікае ў многіх гледачоў.

**— Праца ў рэалістычнай манеры — гэта адлюстраванне таго, што бачна?**

— Мабыць, і так. Але не след забывацца на галоўную функцыю мастацтва — адукацыю. Часам чуеш, што нейкая карціна «ўзрывае мазгі»— ці ж гэта крута? Узрываць можа граната ў акопе, а мастацтва дапамагае адчуць гэты свет. Успомніць халодную рэчку, калі ты далёка ад вады, прыгадаць лета ў маразы і заснежаныя дрэвы — летам. А калі прапануюць паглядзець, як чарапаха танцуе на слане і гэта нібы алегорыя вясны,— такога не разумею. Лічу, што мастацтва павінна вяртаць да гармоніі.

**— Што губіць творы мастацтва?**

— Жаль. Якой бы цудоўнай ні была твая праца, да яе трэба ставіцца з крытыкай. Калі чалавека ўсе любяць і захвальваюць, ён ператвараецца ў пачвару. Тое самае з карцінай. Таму трэба крыху адчуваць страх і стрэс, бо калі ўсё ідзе залішне гладка, ёсць шанц, што твор і мастака забудуць. Трэба, каб каля работы ішлі дыскусіі, каб яе абмяркоўвалі і пастаянна з'яўляліся гледачы, якія будуць разважаць.

**— Ці даводзілася вам чуць пытанні кшталту «навошта?» або «чаму вы гэтым займаецеся?»**

— Падчас выстаў у раёнах гэта, можна сказаць, абавязковыя пытанні. Прыблізна так можна было б спытацца, чаму і навошта Гагарын ляцеў у космас. Яму што, на Зямлі было дрэнна? А патрэбная наша праца таму, што існуе прагрэс, і неабходна шукаць людзей, якім не ўсё роўна, падказваць, што яны могуць зрабіць для краіны і яе культуры. Думаецца, апошняе паняцце ў нас крыху скажонае. Быццам культура або бедная, або разлічана на эліту. Мы, мастакі «Абуджэння», хочам змяніць такое ўяўленне, сказаць, што мастацтва неабходна кожнаму і кожны яго можа зразумець. І раённыя выставы — лепшы сродак данесці гэта да гледача. Самому мастаку таксама карысна выбірацца за межы Мінска, бо так ён атрымае рэйтынг і вядомасць.

## «БЫТАВЫ ЖАНР» І ВОЛЬНАЯ РАМАНТЫКА

— Майстэрня— творчае месца, гэта зразумела, але бытавы жанр ніхто не адмяняў, — кажа Уладзімір, прыладжваючы раскладную лесвіцу да высокай палічкі. — Звычайна мастака ўяўляюць нейкім самаўлюбёным, далёкім ад рэчаіснасці чалавекам. Ён любіць паводзіць сябе штучна, за апантанай творчасцю хаваць безгаспадарчасць. Мне такое не падабаецца. Правесці цеплаізаляцыю, пакласці кафлю, перасадзіць і паліць кветкі — усё гэта з немастацкага рэчышча праца, але пастаянная і неабходная.

**— Напэўна, вам часта даводзіцца прападаць тут па некалькі дзён. Часта знікаеце з жыцця?**

— Хм, паспрабаваў бы я знікнуць на колькі дзён ад сваёй сям'і… Не, я чалавек рацыянальны, нават, можна сказаць, ваенны. Раней нават хацеў паступаць у Сувораўскае вучылішча. Цяпер значуся ў клубе рэканструктараў, маю форму, удзельнічаю ў баях. Падабаецца ваенны падыход, калі ўсё на сваіх месцах. Ёсць сям'я — трэба быць адказным. Падабаецца таксама абсалютная свабода — маляваць што заўгодна і дзе заўгодна. У лесе, у горадзе, у лодцы, калі цябе круціць паміж небам і вадой. Цераз гэтую свабоду і атрымліваецца ствараць з душой.

***Анастасія Сасноўская***

# Малюем Барбару Радзівіл

*Барбара Радзівіл — таямнічы персанаж гісторыі ВКЛ. Жанчына, вядомая кароткім трагічным лёсам, якая ўскалыхнула велікакняжацкую магнатэрыю сваім узыходжаннем на трон каралевы і хутка згасла, як знічка, у віры дваровых інтрыг. Жыла Барбара ў XVI стагоддзі. Выдатна адукаваная магнатка, маладая прывабная жанчына. Вобраз, які натхніў многіх мастакоў, пісьменнікаў і рэжысёраў.*



***Лукас Кранах малодшы, партрэт Барбары Радзівіл***

Нам важна быць гістарычна дакладнымі, таму возьмем візуальныя прыклады. Найбольш карыснымі будуць прыжыццёвы партрэт Барбары мастака Лукаса Кранаха Малодшага і праца Яна Матэйкі пад назвай «Жыгімонт Аўгуст і Барбара Радзівіл у палацы Радзівілаў у Вільні». На абодвух палотнах мы бачым высакародны жаночы твар, грацыёзнасць паставы, багаты касцюм і разнастайнасць упрыгожанняў. Пад багаццем хаваецца чалавечае цела. З яго і пачнём.

***Крок 1.*** Закладваем кампазіцыю. У прамавугольніку аркуша праводзім лінію гарызонту, на «падлогу» ставім умоўную тумбу для апоры. Агульнымі рысамі малюем шкілет, абапіраем яго на тумбу. Заўваж, мы абапіраем Барбару рукой. Адна з ног таксама апорная. Лініі плеч і бёдзер будуць пад вуглом, супрацьлеглыя адно аднаму.



***Крок 2.*** Надаём канкрэтыку схеме цела. Чэрап. Грудная клетка, суставы рук і ног. Кісці і ступні. Жаночыя асаблівасці фігуры — шырокія клубы і вузкія плечы, талія, мяккія акруглыя абрысы цела.

***Крок 3.*** Дэталізуем галаву, прамалёўваем рысы твару, кісці рук. Апранаем постаць. На галаве ў Барбары складаны рэнесансны ўбор, які хавае валасы і шыю. Вузкі ліф сукенкі кантрастуе з шырокімі, багата аздобленымі рукавамі і такой жа шырокай спадніцай.

***Крок 4.*** Падкрэсліваем лініі першага плана, каб лепей убачыць прасторавасць малюнка, і пераходзім да танальнай апрацоўкі. Выбіраем крыніцу святла, наносім асноўныя ўласныя і пабочныя цені. Пераламленне святла і ценю — самыя цёмныя месцы. Суцэльным тонам апрацоўваем прастору за Барбарай. Няхай яе пастава «выплывае з ценю».

***Крок 5.*** Каб абазначыць псіхалагізм, звяртаем увагу на міміку, выраз вачэй. Апрацоўваем упрыгожанні. Але не перабольш з гэтым! Толькі там, дзе святло сустракаецца з ценем, можна дэталёва прамаляваць дэкор. Гэты паўтон выяўляе найбольшую дэталізацыю. І гэта дапаможа падкрэсліць аб'ём.

***Алеся Галота***












# Генадзь Говар: «Я ўжо ў юным узросце быў канкрэтным чалавекам»

*Інтэрв'ю*

***Браць інтэрв'ю ў такога чалавека неверагодна адказна. Генадзь Говар — член Беларускага саюза мастакоў, Саюза пісьменнікаў Беларусі і Міжнароднага саюза пісьменнікаў і майстроў мастацтваў; аўтар шматлікіх твораў выяўленчага мастацтва (графіка і жывапіс); удзельнік мастацкіх выстаў; аўтар кніг паэзіі.***

**— Вы нарадзіліся адразу пасля вайны, у 1945 годзе. Раскажыце пра сваё дзяцінства.**

— Усё было разбурана: вакол катакомбы, снарады, зброя. Памятаю, як мы з сябрамі шукалі міны, патроны... Мой бацька быў афіцэрам, але ў мяне атрымлівалася ім кіраваць. Так здарылася, што ён не мог нават цвіка забіць. А я мог. У мяне было мала сілы, невысокі рост, але я ведаў, як гэта рабіць. Таму паказваў бацьку, дзе пілаваць, рэзаць, забіваць, а ён гэта рабіў. Я размяраю — ён пілуе, я трымаю — ён забівае. У 1950-я гады нам далі новае жыллё, таму даводзілася атрымліваць навыкі, якія дазволілі б зрабіць рамонт. Я ўжо ў юным узросце быў канкрэтным чалавекам. Аб пісьменніцтве тады нават не думаў, але заўсёды здзіўляўся, калі чуў нейкую песню. Думаў: як гэта можна так прыгожа сказаць? Без лішніх слоў, коратка, зразумела. Пры гучанні песень заўсёды змаўкаў і ўважліва слухаў. Вучыўся я добра. Праўда, і ленаваўся часам, не ўсе праграмныя творы ўспрымаў. У праграме было шмат ленінскага і сталінскага. Я ўспрымаў толькі самае галоўнае, што мне падабалася. А што не падабалася, я слухаў, але не прапускаў праз сябе.

**— Як вы пачыналі самі ствараць? Пробы пэндзля і пяра, натхненне...**

— Пачаў друкавацца ў дваццаць гадоў. Маім першым творам стала байка ў прозе. Калі служыў у войску, друкаваўся з малюнкамі і байкамі на ваенную тэму ў беларускай акруговай газеце «Слава Радзіме». Першая выстава прайшла ў Бабруйску. Я пайшоў у звальненне і ў тэатры аперэты, у фае, убачыў, як мастакі вывешваюць карціны. Вырашыў паглядзець на іх. Да мяне падышоў чалавек, мы разгаварыліся, і ён папрасіў прынесці пару маіх работ для ацэнкі. За паўгадзіны я збегаў у вайсковую часць, прынёс некалькі карцін. Іх адразу ж аформілі ў рамкі, і атрымалася, што я стаў удзельнікам гэтай выставы. Пазней мастацкая камісія выбрала маю працу на абласны Магілёўскі конкурс. Так і пачаўся мой творчы шлях.

**— Якія кнігі вы чыталі ў дзяцінстве?**

— Кніг было мала, але я стараўся чытаць як мага больш. Мой бацька служыў у міліцыі, выпісваў газету «На варце Кастрычніка». Там друкавалі дэтэктывы і

вершы, якія я любіў чытаць. Астатнія старонкі я пакідаў тату. Дзякуючы гэтаму выданню я быў падкаваны і ў законах, і ў літаратуры. старшыня Саюза пісьменнікаў, Мікалай Іванавіч Чаргінец, друкаваўся ў гэтай газеце, і я, хлапчук, чытаў яго аповесці. Цяпер мы сябруем. Са школьнай праграмы я аддаваў перавагу Някрасаву, Коласу, Купалу.

**— Што самае складанае ў вашай працы?**

— Нічога складанага няма. Трэба проста працаваць — і ўсё. Талент — гэта адно, гены, якія ў крыві ад продкаў, — гэта другое, а праца — гэта ўжо трэцяе. Ад бацькоў мне дасталася беларуская мова. Цяжка было, калі я пісаў карціны, а мне казалі: «Пейзаж прыгожы ў фарбах, але не хапае на гэтым полі трактара». А мне так не хочацца псаваць працу! Прыходзілася душой крывіць і рабіць так, як казалі вышэйшыя кіраўнікі. Калі настрою няма, я адпачываю: выязджаю на прыроду, рыбачу. Але аб працы забываць нельга: калі баяніст месяц не іграе, у яго пальцы застываюць. Не іграў пару тыдняў, узяў баян, а пальцы ўжо драўляныя. Так і з пэндзлікам, так і з пяром.

**— Што б вы пажадалі чытачам «Бярозкі»?**

— Усім, незалежна ад узросту, я б хацеў пажадаць, перш за ўсё, свету без вайны. Будзе жыццё — будзе і шчасце. А маленькіх беларусаў я б хацеў папрасіць: не забывайце родную мову! Вучыце яе, размаўляйце на ёй. Француз, не ведаючы французскай мовы, не француз. Англічанін, які не ведае англійскай, — не англічанін. Дык чаму ж мы, беларусы, забываем нашу мову? Шануйце і любіце яе!

***Гутарыў Сяргей Грудніцкі***




Подпіс рэдактара

______________

# Родная Мова — краіна адкрыццяў

*Экскурсія*

Кожную сераду пасля ўрока матэматыкі мы спяшаемся ў 24 кабінет, каб разам з любімай настаўніцай Нінай Фёдараўнай Міхно адправіцца ў вандроўку па сцяжынках цудоўнай краіны, якая называецца Родная Мова. Заняткі-маршруты праходзяць вельмі цікава, і мы даведваемся шмат новага. Пра ўсё не раскажаш, але правядзём вас хоць бы па некаторых сцежках.

***Паліна Гурына:*** — Я люблю маршрут «Лексіка». На мінулых занятках мы знаёміліся з архаізмамі. Аказваецца, так прыгожа і незвычайна абазначаюць устарэлыя словы. Цікава, што словы, як людзі, могуць быць маладымі і старымі. Без архаізмаў мы не маглі б знаёміцца з гісторыяй. Чытаем: «вершнік», «дзіда», «пабаявішча» — і ўяўляем смелых ваяроў, якія баранілі нашу зямлю ў далёкія часы. Чытаем: «прасніца», «калаўрот», «кросны» — і даведваемся пра заняткі нашых прабабуль.

Білы, бёрды, сявенькі…
Колькі слоў паўмірала,
Бабулек старэнькіх.

Калі мы прачыталі гэтыя радкі паэткі Данута Бічэль, то вельмі засмуціліся і падумалі, што трэба вывучаць устарэлыя словы, каб яны праз нашу памяць працягвалі жыць.

***Хоць цюльпаны па традыцыі звязваюць з Галандыяй, паходжанне ў іх усходняе (Турцыя, Іран, Афганістан). Сама назва «цюльпан» паходзіць ад назвы ўсходняга галаўнога ўбору — «цюрбан». Цюльпан і сапраўды крыху нагадвае гэты галаўны ўбор.***

***Оля Смалякова:*** — Мне падабаецца назіраць, якія нечаканыя змены адбываюцца з некаторымі словамі, калі яны вандруюць з адной мовы ў другую. Вось рускае «плот». Калі яго не перакладзеш правільна, то па рацэ не паплывеш. А «неделя» можа скараціцца да аднаго дня, калі не перакласці як «тыдзень». І яшчэ цікава, што ёсць словы вельмі арыгінальныя, здольныя перадаваць цэлыя букецікі адценняў. Мы кажам: «Стаміўся з дарогі». А ёсць — «здарожыўся», «падбіўся», «ухадзіўся». Перакласці іх можна часам толькі тлумачэннем.

***Аляксандра Бозік:*** — Мне вельмі спадабаліся наступныя словы: «Мова — гэта акно, праз якое ўвесь свет відаць, і кожны з нас сам вырашае, як шырока ў гэтым акне расчынены аканіцы». А таму я люблю вандроўкі ў госці да слоўнікаў. Якая багатая наша мова! Напрыклад, каб характарызаваць людзей, існуе больш за дзве тысячы слоў, пра аблачэнне святароў нам паведамяць сто назваў, а сучасны слоўнік, падрыхтаваны Фёдарам Піскуновым, налічвае недзе 230 тысяч слоў.

***Іаланта Кодзік:*** — Мяне прываблівае маршрут «Паэтычны». На занятках мы аналізуем вершы і спрабуем пісаць самі. Наша настаўніца заўсёды скіроўвае нашу ўвагу на выразнасць і вобразнасць паэтычнай мовы. Неяк разглядалі мы сінонімы, а праз іх сінанімію. Былі ўражаны радкамі Янкі Купалы:

Коціцца, уецца далінкай крыніца,
Б'ецца, плюскоча ў каменнях вадзіца.

Настаўніца нас заахвоціла паспрабаваць свае творчыя сілы. Мы паспрабавалі. Праўда, вершы нашы атрымаліся больш смешнымі, чым сур'ёзнымі, але дух творчасці абудзіўся. І асноўнае — мы пачалі разумець, што значыць моўнае багацце.

А яшчэ наша Ніна Фёдараўна ладзіць нам вандроўкі па старонках часопіса «Бярозка». Нам падабаецца чытаць і абмяркоўваць тое, што ў ім друкуецца.

Таму і вырашылі расказаць пра нашы заняткі-вандроўкі. Можа, чытачы часопіса раскажуць нам пра свае цікавыя справы?

***Вучаніцы гімназіі № 2,***
***Гродна***




Подпіс рэдактара

# Школьная форма

*Меркаванне*

***Вы калі-небудзь задумваліся пра школьную форму? Пра тое, калі яна з'явілася, навошта патрэбна, як ставяцца да яе вучні, дарослыя?***

Мяне гэта зацікавіла, калі я перайшла ў пяты клас гімназіі. Амаль на першым тыдні нас папярэдзілі, што праз некаторы час кожнаму пашыюць камізэлькі з эмблемай гімназіі, якія мы павінны будзем насіць штодзень. Для малодшай школы — зялёнага колеру, для сярэдняй і старэйшай — бардовага. Меркаванні раздзяліліся: некаторыя пачалі абурацца, бо палічылі, што гэта перашкодзіць іх індывідуальнасці, іншыя ўспрынялі навіну з энтузіязмам, але былі і тыя, хто не адрэагаваў ніяк.

Я была надта маленькая, каб выказваць свае думкі. Толькі цяпер, у дзявятым класе, у мяне сфарміравалася сваё меркаванне наконт гэтага. Я не жадала насіць школьную форму, бо не разумела, навошта яна патрэбна. А потым вырашыла разабрацца ў яе прызначэнні.

Упершыню школьная форма ў Расіі была ўведзена прыкладна дзвесце гадоў таму. Яна была сведчаннем саслоўнай перавагі, бо ў тыя часы магчымасць атрымліваць адукацыю мелі толькі дзеці дваран, інтэлігенцыі і прамыслоўцаў.

У наш час яна таксама з'яўляецца нейкім сведчаннем, хоць магчымасць вучыцца маюць усе. Значыць, форма гімназіста — гэта не сведчанне высокага статусу сям'і, а доказ высокіх дасягненняў у навучанні. Гэта дакладна так, бо ў наш час школьная форма існуе толькі ў некаторых гімназіях, у якіх навучанне пастаўлена на больш высокі ўзровень, чым у простых школах. Але самі гімназісты не разумеюць неабходнасці насіць школьную форму, хоць і адчуваюць гонар ад таго, што вучацца ў гімназіі, сярод такіх жа разумных, як самі.

Некаторыя скажуць: «Ва ўсіх школах ёсць школьная форма!»

Але ж гэта не так. Вы блытаеце школьную форму з дзелавым стылем. Ён больш свабодны, дае больш прасторы індывідуальнасці. З аднаго боку гэта добра, а з другога дрэнна. Кожны чалавек павінен мець магчымасць быць асаблівым, але паказаць гэта можна і без дапамогі адзення. Часам яно даводзіць да спрэчак з-за лэйбла: нехта ў дарагой вопратцы лічыць сябе вышэйшым і лепшым за іншых. Але калі ён так лічыць, то гэта дакладна наадварот. І дакладна з-за такіх выпадкаў некалі і ўвялі школьную форму. Яна з'яўляецца эфектыўным сродкам усталявання сацыяльнай роўнасці сярод школьнікаў. Ніхто не зможа высветліць, з багатай ты сям'і ці з беднай, калі ўсе носяць аднолькавае адзенне.




Подпіс рэдактара ______________

***Мілена Красоўская,***
***9 «В» клас, гімназія № 1***
***імя Ф. Скарыны, Мінск***

# Дзівоснае ператварэнне

*Казкі школьнага ранца*



Мастачка Марыя Агрэніч

Гэта быў самы звычайны двор, якіх шмат у нашым горадзе, — з арэлямі, каруселямі і пясочніцай. А пасярод двара знаходзілася вялікая прыгожая клумба, на якой расло мноства самых розных кветак: цюльпаны і нарцысы, аксамікі і стакроткі, ружы і гваздзікі, касачы і гладыёлусы, рамонкі і астры. З ранняй вясны да позняй восені радавала жыхароў нашага двара ўся гэтая прыгажосць. За кветнікам даглядала дворнічыха цётка Маша. Яна высаджвала кветкі, палівала, сачыла, каб хлапчукі, гуляючы ў футбол, не сапсавалі клумбу.

Акрамя кветак на клумбе жыло вялікае мноства ўсялякіх жучкоў, чарвячкоў і кузурачак. Матылі пырхалі над кветачкамі, пчолы гулі, старанна збіраючы пылок з кветак.

А сярод лісточкаў адной з кветак жыў Вусень, тоўсты, зялёны і непрыгожы. Жучкі і кузуркі крыўдзілі яго, дражнілі, смяяліся з небаракі, таму Вусень увесь час хаваўся паміж лісточкамі, каб ніхто яго не бачыў. Але аднойчы выпаўз ён са сваёй схованкі і ўбачыў на суседняй кветачцы прыгожага матыля.

— Які ён прыгожы! — усклікнуў Вусень. — Вось бы мне стаць такім жа, каб усе любаваліся мною!

— Паглядзіце на гэтага зялёнага таўстуна! — данёсся да Вусеня смех кагосьці з ягоных крыўдзіцеляў. —З такой колькасцю талій ты можаш аб такой прыгажосці толькі марыць!

— Куды ж ты схаваеш усе свае няўклюдныя ножкі? Крылы заблытаюцца сярод іх! Але ж у цябе няма крылаў і ніколі іх не будзе!

Вусень паспяшаўся схавацца ад кпінаў. Заплакаў небарака, залез пад самы вялікі ліст і вырашыў больш ніколі не выпаўзаць.

Доўга ліліся з вачэй Вусеня горкія слёзы, потым пачуў ён чыйсьці ласкавы галасок:

— Чаму ты сумуеш, мілы Вусень? Хто пакрыўдзіў цябе?

Вусень узняў галаву і ўбачыла Фею.

Фея была такой прыгожая, як і матыль, і нават прыгажэйшай. А яшчэ ў яе былі вельмі прыгожыя крылцы… І ўбачыўшы іх, Вусень заплакаў яшчэ мацней.

— Яны смяюцца з мяне, што я зялёны, што ў мяне шмат ног і талій! — усхліпваючы, пачаў тлумачыць ён Феі. — А я хачу стаць прыгожым, як матыль, каб у мяне былі такія ж крылы і каб я ўмеў лётаць! Я б лётаў над кветачкамі, і ўсе б радаваліся, гледзячы на мяне!

— Не плач! — сказала Фея. — Вазьмі вось гэтую доўгую нітачку, старанна абкруці яе вакол сябе шмат разоў, і ўбачыш, што адбудзецца!

Вусень узяў нітачку і спытаў:

— А што павінна адбыцца? Я стану прыгожым?

Але яму ніхто не адказаў. Вусень агледзеўся вакол, але Феі ўжо не было.

— Вось і яна пасмяялася з мяне, — сумна прамовіў Вусень. — Але ўсё ж абматаюся гэтай ніткай і канчаткова схаваюся ад усіх!

Так ён і зрабіў: абматаўся нітачкай, пасумаваў яшчэ трошкі і заснуў.

Доўга спаў Вусень. І снілася яму, што за спінай у яго выраслі прыгожыя крылы, што ён лётае над кветнікам, а ўсе ім любуюцца.

Прачнуўся ад таго, што стала цесна ў новай схованцы. Выбраўся вонкі і зноў схаваўся пад лістком.

У гэты час цётка Маша вырывала пустазелле з кветніка і раптам убачыла прыгожага матыля пад лістком.

— Які ж ты прыгожы! — усклікнула цётка Маша. — І чаму ж ты хаваешся? Ляці, пакажы сваю прыгажосць усім!

Вусень ніяк не мог зразумець, пра каго яна гаворыць. І раптам у кропельцы расы на лісточку ўбачыў не сваё брыдкае адлюстраванне, а прыгожага матыля з цудоўнымі крыламі.

— Няўжо гэта я?! — усклікнуў былы Вусень. — Ці, можа, гэта яшчэ сон?!

Ён асцярожна ўзмахнуў крылцамі і ўзляцеў над кветкамі.

— Дзякуй, добрая Фея! — усклікнуў былы Вусень, а цяпер Матыль.

І паляцеў высока над кветнікам, каб усе маглі любавацца ягонай прыгажосцю!

***Маргарыта Садоўская,***
***6 «В» клас, СШ № 40, Магілёў***

# Верасок-паэзія

## МАТЧЫНА МОВА

Мова матчына,
Добрая, звонкая,
Ты ўвайшла ў маё сэрца даўно!
То шапочаш бярозкаю тонкаю,
То шуміш залатой збажыной.

То бяжыш раўчукамі вясновымі,
То спяваеш жальбой журавоў,
То звініш салаўінаю моваю
Над зялёным разлівам лугоў,

Мова матчына!
Добрая, гожая!
Прыгажэй жа, мужней і расці!
Не губляю цябе, не знаходжу я:
Ты і ў сэрцы маім, і ў жыцці!

***Анастасія Дычанкова,***
***9 клас, Дзераўнянская СШ,***
***Стаўбцоўскі раён***

## ЛЮБІМАЯ СЯМ’Я

Маці і бацька,
Бабуля, дзядуля —
Разам сям’я мы,
Разам мы вулей
Пчол працавітых,
Дружных, шчаслівых,
Недзе вясёлых,
Недзе руплівых.
Разам ствараем
Шчасце людское,
Іншых не крыўдзім,
За родных — гарою.
Працу стваральную
Любім заўсёды.
Мір пабудуем —
Знішчым нягоды.

***Максім Шпак,***
***8 клас, гімназія № 16, Мінск***

## ВЯСНЯНКА

Жаўрук, жаўрук, прыляці!
Вясну-красну прывядзі!

Каб сонейка засвяціла,
Лес і поле абудзіла!

Каб у лесе і на ўзлеску
Прачыналіся пралескі!

***Юля Гарбацэвіч,***
***6 клас, Заслаўская гімназія,***
***паэтычны клуб «Ізяслаўцы»***




## БЕЛАРУСІ

Русь Белая, любімая!
Ідзём дарогай мы адной.
Мая цудоўная Радзіма,
Заўсёды сэрцам я з табой!

Ты край любові і натхнення:
Звініць ручай, шапоча гай…
Заўсёды, ў кожнае імгненне
Ты ў маім сэрцы, любы край!

***Лізавета Скальская,***
***6 клас, Заслаўская гімназія,***
***паэтычны клуб «Ізяслаўцы»***

## МАМА КАЗАЛА, ШТО КРЫЛЫ ТРЭБА ХАВАЦЬ…

Мама казала, што крылы трэба хаваць
У цёмную шафу і замыкаць на ключ,
Каб як іншыя жыць, каб у неба на іх не
ўзлятаць
Ці ў дзівосны свет, дзе дрымотныя
мары пяюць.

Мама казала: «Ты мары ў цемру пусці!
Запомні: цябе не чакае блакітны
змей!»
Мама вучыла, як трэба ісці па жыцці,
Моцна старацца ў вучобе, не верыць
у добрых фей…

І паўтарала: адкуль жа з’явілася я,
Што не люблю навамодных плыняў,
на жаль.
А я ўсё чытала кнігі… і мара мая
Несла начамі мяне на шыкоўны баль.

А крылы скрабуцца аб цяжкія дзверы
дарма
І просяць, і клічуць надрыўна
й жалобна: «Ляці!»
І я той ключ бяру, пакуль нікога няма,
Па пёрах праводжу рукой…
Даруй мне і адпусці!

І вецер мне ў твар…
І справа мая — палёт!
Матуля, ты проста не ведаеш страты
людзей!..
І, можа, мяне не кране непазбежны
лёд,
Які нарастае на крылах ва ўсіх дзяцей!

***Юліана Хадасевіч,***
***10 «В» клас, ліцэй № 1, Мінск***

# Музыка, якая звязала…

Мастачка Марыя Агрэніч



***Адрас адпраўніка: Ленінград, Таварыскі праспект, д. 19, кв. 26, Арбатава Алена.***

***Каму/Куды: Арбатаву В.І., Заходні фронт, 84 стралковая дывізія, г. Ржэў, 23 лістапада 1942 года.***

Дарагі, любы мой тата!

У нас усё застаецца так, як і было ў апошнія 436 блакадных дзён…

Лісты твае даходзяць рэгулярна, хоць і прыносіць іх Валянціна Дзмітрыеўна з вялікім спазненнем.

Вакол змёрзлы заснежаны Ленінград. Пустыя вуліцы, марозныя ночы. Супрацьзенітныя пражэктары перакрэсліваюць начное неба. Вакол велічныя помнікі і палацы… і знясіленыя, змардаваныя людзі. Маўклівая чарга па хлеб: «сто дваццаць пяць блакадных грамаў, з агнём, з крывёю папалам».

Замерзлі водаправодныя трубы, мы засталіся без вады, у дамах патухла святло, сцены кватэр пакрыліся намаразззю. Трамваі і тралейбусы не ходзяць, безжыццёва правіслі белыя ніткі правадоў. Але горад жыве і змагаецца. Заводы выпускаюць ваенную прадукцыю, мы ходзім на заняткі, а мама нават дазваляе працягваць навучанне ў музычнай школе. Праўда, мы часцей збіраемся ў Ганны Данілаўны дома, але заняткі ад гэтага горшымі не становяцца. Ведаеш, тата, у яе дома ёсць патэфон, а на сцяне вісіць пасмяротная маска самога Бетховена! Калі Ганна Данілаўна садзіцца за піяніна і чароўныя гукі музыкі напаўняюць кватэру — усё забываецца і нават вайна застаецца дзесьці вельмі далёка ад нас. Праўда, рукі Ганны Данілаўны з кожным днём усё слабей і слабей б’юць па чорна-белых клавішах… Але музыка яе ўсё такая ж цудоўная. Ды яна і не можа быць іншай, калі ў ёй столькі жыцця!

А раз на месяц мы ўдзельнічаем у канцэртах для абаронцаў горада. Часта гэтыя выступленні перадаюць па радыё, і тады нас чуе ўвесь Ленінград. Нядаўна я іграла ў пальчатках з выразанымі кончыкамі пальцаў, але як жа мяне слухалі і як мне гралася!

І ўсё ж не аб такіх канцэртах я марыла. Памятаеш, як мы з мамай доўга шылі мне канцэртную сукенку для выступлення з сімфанічным аркестрам у Малой зале Глінкі? Нам тады Ада Леапольдаўна нават дазволіла ўзяць яе «Зінгер».

О, як жа ўзляталі тады беласнежныя рукавы-ліхтарыкі на струменьчатай шаўковай сукенцы, як блішчэлі туфлікі-лодачкі, у якой гармоніі з маім вобразам знаходзілася цымерманаўская лакіраваная скрыпачка! Зараз я ў шэранькім замызганым паліто, грубых безразмерных валёнках і цёплай пуховай бабулінай хустцы. Ні кроплі не засталося той мінулай грацыёзнасці і вытанчанасці. Нават скрыпка і тая не так блішчыць. І, здавалася б, музыка не павінна гучаць у руках такой выканаўцы, як я… але гукі па-ранейшаму лёгка разліваюцца па паветры. І ад іх нават становіцца цяплей…

Я зразумела: пакуль лепшыя людзі нашай краіны адстойваюць кожную пядзю зямлі, пакуль нашы бацькі і дзяды змагаюцца на фронце, матулі рыюць акопы і дапамагаюць падпольшчыкам, мы павінны сваім мастацтвам уздымаць духоўныя і фізічныя сілы людзей на разгром ворага. Ты зараз, напэўна, усміхнуўся, прачытаўшы пра «наша мастацтва». Што ж, у нас пакуль не хапае сіл, мы яшчэ падлеткі, якія так часта страчваюць прытомнасць ад голаду, але «духоўная ежа» замяняе нам «хлеб надзённы», які даюць толькі па талонах, ды і тое не заўсёды рэгулярна. У час блакады неабходнасць гэтай духоўнай ежы адчуваецца асабліва востра, нібыта штосьці матэрыяльнае, фізічнае, што дапамагае людзям выжываць. Вядома ж, з дапамогай адных кніг і нот не выжывеш, але затое людзі не ператвараюцца ў «прадукт вайны», які можа толькі забіваць альбо быць забітым. Усё ж гэта хоць нейкая, але дапамога, хай сабе і дзіцячая.

За апошні час адбылося многае, але адну падзею, якой на фронце значэння б не надалі, мы тут ацанілі як асабістую перамогу.

Ты толькі ўяві: мы з мамай спяшаемся ў філармонію, вось ужо празвінеў другі званок, і мы праходзім у трэці рад, непрыкметныя, дрэнна апранутыя. Нягледзячы на пагрозу бомбавых удараў, усе люстры запаленыя, зала поўная, публіка самая разнастайная: маракі, франтавыя афіцэры, маладыя салдаты, ваенныя медыкі, схуднелыя ад пастаяннага недаядання гараджане. Сёння іграюць «Ленінградскую» сімфонію Шастаковіча. Прэм’ера.

Новы твор маэстра літаральна ўзрушыў слухачоў: адны плакалі, не хаваючы слёз, другія спрабавалі запомніць і нават запісаць партытуру на нейкіх скамечаных лістках. Вялікая музыка змагла выказаць тое, што аб’яднала нас у нялёгкія гэтыя часіны: веру ў перамогу, самаахвярнасць, бязмежную любоў да свайго горада і сваёй краіны.

У час выканання сімфонія трансліравалася па радыё, а таксама па гучнагаварыцелях гарадской сеткі. Яе чулі не толькі жыхары горада, але і нямецкія салдаты ў сваіх акопах.

І, слухаючы, ворагі пачыналі разумець, што вайна імі прайграная. Немцы адчулі нашу сілу, здольнасць пераадолець голад, страх смерці і нават самую смерць. Яны лічылі, што Ленінград даўно мёртвы, але ў нас усё наперадзе! Праўда ж, татачка?!

І зараз у нашым галодным і напалову разбураным горадзе ўсё часцей гучаць такія чароўныя і непаўторныя гукі сімфоніі. Іх ведае кожны ленінградзец! Гэта наш блакадны гімн! Шкада, што папера не можа перадаць гэтыя гукі, але ты вер мне: яны геніяльныя!

Не перажывай, тата, мы з табой яшчэ не раз пачуем гэтую сімфонію ў сценах філармоніі. І гэта будзе ўжо хутка, як толькі скончыцца вайна, і ты вернешся і дастанеш з шафы свой парадны касцюм. А потым, узяўшы пад руку маму

ў прыгожай сукенцы, ты зможаш без страху за нашы жыцці правесці сваіх любімых «жанчынак» у музычны храм. А пакуль ты ваюй і памятай, што нават вайна не зможа знішчыць нічога з таго, што так дорага людзям! І мой аповед таму яскравы прыклад.

Беражы сябе! Цалую! Твая мышка Пік-Пік і Мама!

***Яна Макарава,***
***10 «Г» клас, Магілёўскі абласны ліцэй № 1***

*Заяўка на Парнас*

# Какетка

Какетка была звычайным канём-пакатушкай, якія катаюць людзей у конным манежы. Але для мяне яна была самай ласкавай і разумнай.

Наша знаёмства адбылося ў траўні мінулага года, калі я прыйшла ў манеж пакатацца. Тады Какетка сама падышла да мяне, глядзела некалькі хвілін, потым выцягнула доўгую шыю і пачала гулліва прытанцоўваць, усім сваім выглядам паказваючы: глядзі, якая я прыгажуня.

Так, прыгажуня: стройная, даўганогая, карычневая поўсць ўся блішчыць і пераліваецца, доўгая грыва і чубок какетліва звісаюць на адзін бок, але галоўнае — вялікія вочы. Я зазірнула ў гэтыя вочы і зразумела, што хачу катацца толькі на гэтым кані. Какетка страсянула галавой і раптам пацягнулася пысай да маёй шчакі.

— Какетка, ці гэта ты? На цябе гэта не падобна! — сказала інструктар Таццяна Анатолеўна і, паляпаўшы кабылку па шыі, павярнулася да мяне. — Глядзі, як яна какетнічае з табой, спрабуе спадабацца. Яна выбрала цябе сама. Какетка ў нас з характарам! Будзеш на ёй катацца?

— Буду! — сказала я, абдымаючы прыгажуню за шыю. Для мяне яна ўжо была найлепшай.

А Какетка вялікімі вільготнымі вуснамі даследавала мае рукі.

— Ах, дык ты яшчэ і папрашайка? — засмяялася Таццяна Анатолеўна. — Лічы, што ты сёння здзівіла мяне двойчы, Какетка!

Як жа я магла забыцца, што коні вялікія ласуны. Я хутка дастала з заплечніка яблык і пакецік з кавалачкамі цукру.

— Не аддавай усё адразу, — параіла мне інструктар. — Пакінь на падзяку пасля катання.

Таццяна Анатолеўна дапамагла мне сесці ў сядло, я паляпала Какетку па шыі, і яна пайшла па манежы. У гэты момант я была на сёмым небе ад шчасця.

Гадзіна катання праляцела хутка. Потым я скарміла Какетцы ўвесь цукар, доўга гладзіла яе па шыі, цалавала ў храпу. Адыходзячы, паабяцала прыйсці праз дзень зноў.

І прыйшла праз дзень, а потым стала прыходзіць да Какеткі тры разы на тыдзень. Яна пазнавала мяне і заўсёды падыходзіла сама, яе нават не трэба было клікаць.

— Мне часам здаецца, што яна ведае, калі ты павінна прыйсці, і чакае цябе, — сказала мне неяк Таццяна Анатолеўна.

— Проста я прыходжу заўсёды ў адзін і той жа час, — адказала я, а сама была ўпэўнена, што на самай справе мой конік любіць і чакае мяне.

Я абавязкова прыносіла пачастункі — морку, яблыкі, сухары і яе любімы цукар. Яна акуратна забірала пачастункі з маёй далоні сваімі вільготнымі вуснамі, апетытна хрумкала, злізвала крошкі шурпатым цёплым языком, а потым фыркала і штурхала мяне ў плячо: маўляў, паехалі ўжо, хопіць адпачываць.

Так працягвалася тры месяцы, а потым я патрапіла ў бальніцу. Потым у другую, трэцюю...

Магілёў, Мінск, Масква, зноў Мінск. І ўсюды адзін і той жа адказ: «Спадзявайцеся...»

За два з нечым месяцы я зусім забылася не толькі пра Какетку, але і пра многае іншае, што было мне цікава, без чаго я не магла жыць раней…

Вярнуўшыся дадому, я ўбачыла фотаздымак Какеткі.

— Мама, я даўно не бачылася з Какеткай. Мы павінны схадзіць да яе, бо пакрыўдзіцца.

— Але доктар сказаў, што пра коней трэба забыцца, — паспрабавала запярэчыць мама.

— Я не буду больш катацца. Гэта апошні раз. Я толькі пагавару з ёй, яна ўсё зразумее. Ты не ўяўляеш, якая яна разумная! Ну, калі ласка! — упрошвала я маму.

І вось я зноў у манежы. Я ўбачыла яе адразу. Какетка падняла галаву і пагледзела на ўваход, быццам чакала кагосьці. І тут яна ўбачыла мяне. Яна страсянула галавой, нібы не паверыла, што гэта я, зноў страсянула галавой і ціхенька заіржала, нібыта радасна павіталася. А затым амаль рыссю падбегла да мяне.

Я моцна абняла Какетку за шыю. Слёзы душылі.

— Якая ты прыгожая! — Я прыціснулася да яе. — Даруй, я доўга не прыходзіла... — нейкі тугі салёны камяк сціснуў маё горла, не даў скончыць фразу.

І тады я проста зазірнула ў вочы Какеткі.

І мне раптам здалося, што яна ўсё ведае.

Ведае пра маю хваробу, пра тое, што я прыйшла апошні раз, што мы, хутчэй за ўсё, больш не ўбачымся…

Можа, з гэтай прычыны яна прыціснула свой шырокі лоб да маіх грудзей і заціхла...

— Разумееш, я вельмі хворая і ўрачы забаранілі... Яны нават у школу забаранілі мне хадзіць, разумееш, я вельмі стамляюся... І таму не змагу прыходзіць да цябе... — я не магла гаварыць. Вялікія вільготныя вусны дакрануліся да маёй шчакі, потым Какетка ціхенька штурханула мяне галавой у плячо. Яна ўсе разумела, мая разумная і добрая Какетка.

Я пайшла да выхаду, але ўвесь той час, пакуль ішла, адчувала на сабе сумны позірк Какеткі. Калі ж, падышоўшы да дзвярэй, я зноў павярнулася, кабылка рэзка ўскінула галаву і ціхенька заіржала.

— Бывай, мой конік-пакатушка, — у думках сказала я каню і выйшла на вуліцу.

***Маргарыта Садоўская,***
***6 «В» клас, СШ № 40, Магілёў***



Мастачка Дар'я Чупрыс

# Той варты быць на вышыні, хто не пасее ліха

*Мікола Мятліцкі*

## ДБАЙНЫ ДЗЯЦЕЛ

У лясах хто з нас не бачыў
У пару не раз грыбную,
Як дзяўбе-дубасіць дзяцел
Сухадрэвіну старую.

Хвастом спрытна падапрэцца
І грукоча, будзіць ранне.
А чаму?
Аб тым снуецца
З даўніны сівой паданне.

Быў калісьці сярод птушак
Дзяцел надта непрыкметны.
Камароў лавіў і мушак,
Як і ўсе, часінай летняй.

А калі даспее вішня,
Гляне чырванню густою,
Ён ляцеў туды: не лішне
Ўсмак паласавацца ёю.

Аблятае агароды,
Даляціць, праныра, ўсюды.
І нямала розных шкоды
Глумам тым прыносіў люду.

То склюе струкі гароху,
То здзяўбе ушчэнт капусту.
Каб жа дзе уткнуўся трохі,
Дык усё яму па густу.

І такі ж ён ўсёедны,
І такі на глум ахвочы,
Што гадамі ўжо люд бедны
Сцеражэ гарод і ўночы.

Дзе ні глянеш — глуму многа,
Дзе ні ступіш — клопат лішні.
І ўзмаліўся люд да Бога:
— Супыні дзятла, Ўсявышні!

На нябеснай спаў падушцы
Бог якраз — прачнуўся гнеўны.
І падумаў: кожнай птушцы
Трэба даць занятак пэўны!

Бусел дзюбаю чырвонай
Ваду мацае ў ахвоту:
Стала вотчынай ягонай
Непралазнае балота.

Чапля возера і рэчку
Ва ўладанні атрымала,
Ёй і сёлета, дарэчы,
Рыбы злоўлена нямала.

***Першы зборнік вершаў вядомага беларускага паэта Міколы Мятліцкага «Абеліск у жыце» выйшаў у 1980 годзе. Потым было яшчэ шмат вершаваных зборнікаў, у тым ліку і дзіцячых. Напрыклад, «Няправільныя санкі». Мікола Мятліцкі — вельмі арыгінальны паэт.***

Жураўлю лясны імшарнік
З журавінамі дастаўся.
Там ён, дбайны гаспадарнік,
Ад вачэй людскіх схаваўся.

Жаўруку — з жытамі поле.
Ён і сёння, чуюць людзі,
Песняй срэбранай ваколле
Раніцою цешыць-будзіць.

Салаўю — гушчар надрэчны,
Непралазней не бывае,
Дзе па вёснах так сардэчна
Свае трэлі выцінае.

Дзеркачу аддаў ва ўладу,
Каб з самоты не памёрла,
Ля ракі былое ляда,
Дзе ён часта дзярэ горла.

А саве — лясы густыя,
Што абселі кут надрэчны,
Дзе яна ў часы начныя
Пудзіць вухканнем сустрэчных.

Да сябе паклікаў дзятла
І сказаў яму ласкава:
— І табе, увішны, варта,
Ў рэшце рэшт, заняцца справай.

Падабраў яму работу
Па душы, як тое ведаў.
І цяпер ён у ахвоту
Дабывае караедаў.

З ранку ляскае у лесе,
Лечыць хворую драўніну.
Вось якую на Палессі
Пра дзятла пачуў быліну.

## ДЗЕРАЗА

На доле гіблым, дзе лаза
Сядзіць наўкруг балота,
Звілася ніца дзераза,
Зайздросцячы чароту.

— Які высокі і густы!
Мяцёлка аж іскрыцца.
А бачыш столькі ў свеце ты,
Што мне і не прысніцца.

Ты бачыш небную красу,
Ты чуеш спеў вясёлы.
А я, гаротніца, паўзу,
Прыцісшыся да долу.

Жыву, як крот які ў нары,
І дзень пры дні смуткую.
І тое, як шумяць вятры,
Я нават не пачую.

Так лёжка гэтакая мне
Адвеку апастыла,
Дзе промень сонца не кране,
Дзе дол сыры — магіла.

А я ж у даўнія часы
Ўзвівалася высока,
І птушак чула галасы,
І бачыла далёка.

Так люба мне сачыць было,
Як ў небе аблачынка
Ускіне белае крыло,
Ляціць-плыве, пушынка.

Здаецца, я за ёй услед
Лячу у небе вольным
І бачу гэты белы свет,
Шырокі і раздольны.

Такі ён пахкі, трапяткі,
На вочы набягае.
Вунь стужка сіняя ракі
Бяжыць за белым гаем.

А там, за борам векавым,
У сонцы легла ніва
І спелым коласам сваім
Калышацца ігрыва.

Ды жах які, як небны звод
Ударыць навальніцай.
— Чаму ж тады, — спытаў чарот, —
Ты стала гэткай ніцай?

Маўчала доўга дзераза,
Казаць не ўсё хацела.
Аж нават кметная сляза
На вейках заблішчэла.

Ды, супакоіўшы душу,
Чароту, быццам сыну,
Сказала шэптам: — Раскажу
Аб тым сваю быліну.

У старадаўнія гады
Была я дужа знанай
І гучна звалася тады
Прыгожаю ліянай.

Мне ўсюды вольніца была,
Расці, шумі зялёна.
Я плёткі чэпкія віла
У дрэў высокіх кронах.

Любілі гушкацца на іх,
Як на арэлях, малпы.
Шалёны вецер лісце стрыг,
Грымот гучалі залпы.

Трымцеў чубаты кіпарыс
Пад ветрамі бывала.
А я глядзела зверху ўніз,
Нябогу шкадавала.

А той за вельмі ж мала дзён
Так вымахаў высока
І стаў такі ўжо маладзён,
Што не адвесці вока.

Вілася я па камлюку
Суседняй юнай пальмы.
Яго калючую шчаку
Мае кранала пальцы.

Не закахацца не магла
Я, гожая ліяна.
Усё б на свеце аддала,
Каб толькі ў бок мой глянуў.

Аднак мяне не ўважыў ён,
Да пальмы ўсё гарнуўся.
Яму паслала я праклён,
Дух злы ўва мне прачнуўся.

Я не магла спакойнай быць,
Сцінаўся нямогла.
І стала пальму я душыць,
І тая хутка ўсохла.

Пра гэты мой патайны грэх
Даведаўся Ярыла,
Па мне маланкаю прабег —
Паўнеба азарыла.

Я запалала ўся ў агні.
Нікчэмнаю, малою
Ляжала на ўчарнелым пні
І стала — дзеразою.

Цяпер за гэты чорны грэх
Мне век паўзці па доле,
Не бачыць свет, не чуць мне смех,
Не ведаць шчаснай долі.

Вось так пад дрэвамі й ляжу,
Скруціўшы плётак скруткі.
Уся прамокла ад дажджу
І дзень дрыжу цалюткі.

Сказаў чарот: — Кахаць — не зло.
А зло — чыніць расправу.
І ты, змяістае сцябло,
Гібееш век па праву.

Больш зла нікому не чыні,
Ляжы век ніца, ціха.
Той варты быць на вышыні,
Хто не пасее ліха.



Мастачка Марыя Агрэніч

Тэрэза Кавальчук

# Эксперыментатар

Спякота стаяла невыносная, дзесьці пад сорак градусаў, і дзеці штодня бегалі на рэчку, каб пакупацца і хоць крыху ахаладзіцца. Надвор'е такое трымалася ўжо тыдні са два, а то і больш. Людзі чакалі дажджу, у агародах павыгаралі нават клубніцы, хоць іх і палівалі. Трава, куды ні кінь вокам, была пажоўклай, нібыта і не лета стаяла на двары, а нейкая позняя восень.

Некалькі хлопчыкаў спяшаліся да рэчкі, але, праходзячы каля аднаго з нежылых памяшканняў, пачулі раптам кацінае мяўканне, і нават не мяўканне, а жаласлівы енк. Хлопчыкі перш прайшлі далей, а потым усё ж вярнуліся.

— Дзе ж прапала гэтая кашачая душа? — запытаўся ўстрывожаны Мікітка. — Чаму мы яе нідзе не бачым, а здаецца што яна енчыць зусім блізка?

— А можа яе закрылі вунь там, у пуні, каб мышэй лавіла, а яна хоча на двор выйсці? — выказваў здагадку Вадзім.

Хлопцы накіраваліся да пуні, але енк ужо быў не так чуваць. Калі адчынілі дзверцы пуні, ён зусім сціх. Стала зразумела, што коткі тут няма.

— Давайце вернемся і зноў пачнём пошукі, — прапанаваў Мікітка.

— Вы што, зусім пaдурнелі, вам што, котка гэтая даражэй за ўласнае жыццё?! — абурыўся Дзімка. — Якія пошукі, я зараз расплаўлюся! Хадзем хутчэй да рэчкі, нічога з вашым катом не здарыцца, памяўкае трошкі і пабяжыць дадому.

— Пабяжыць, а калі ў яго лапка зламана і ён не можа бегчы! А тут такая спякота. Сам не вытрымліваеш, а каб табе яшчэ футра апрануць, як у коткі, — занерваваўся Мікіта.

— Што ты яму тлумачыш, няхай ідзе куды ішоў, а мы зоймемся пошукамі, і без яго справімся, — узлаваўся Вадзім.

Мікітка з Вадзімам вярнуліся на тое месца, дзе раней чулі енк, і зноў яго пачулі. Але, як і раней, ніяк не маглі зразумець, адкуль ён даносіцца. Дзімка стаяў побач, нікуды ён ужо не спяшаўся.

— Давайце прачэшам вунь тую траву, мо яна там, — сказаў ён крыху вінаватым голасам.

— А я прапаную з гэтага месца разысціся ў розныя бакі, так мы хутчэй яе знойдзем, — упэўнена сказаў Мікітка.

Гэтак і зрабілі, і хутка Дзімка з Мікіткам пачулі Вадзімаў крык:

— Сюды, сюды, яна тут!

Котка ляжала ў траве на спіне, загорнутая ў адарваны ад дзіцячай цыгейкі рукаў і абвязаная вяроўкай ад лапак да самай шыйкі, і толькі пыска яе крыху высоўвалася з гэтага рукава. Мікітка першым апамятаўся і хутка пачаў вызваляць небараку з няволі. Але і пасля вызвалення котка засталася ляжаць, і толькі жаласна мяўкала, напэўна ў яе ўжо не было сілы ўцякаць. Колькі працягваліся кацiныя пакуты: дзень ці, можа, нават некалькі?.. — гэтага хлопчыкі не ведалі. Рудая поўсць коткі была мокрая, лапкі дрыжэлі…

— Ёй трэба хутчэй даць папіць, у яе абязводзіўся арганізм, — даў слушную параду Вадзім.

— Дык у нас ёсць вада, — ажывіўся Дзімка і пачаў выцягваць з пакета бутэльку з вадой.

— А як мы яе напоім, у нас жа няма ні кубка, ні талеркі, — спытаўся заклапочана Дзімка.

— Налівайце мне ў жменю і паднясіце котку да маіх рук, — прапанаваў Мікітка.

Такога хуткага цмокання ружовага кацiнага язычка яны яшчэ не назіралі. Прыйшлося некалькі разоў падліваць у Мікіткавы далоні ваду. Пасля гэтага котцы стала крыху лепей, яна нават паспрабавала ўзняцца. Праўда, безвынікова...

— Яна напэўна галодная, — сказаў Мікітка.

— Хутчэй даставай нашы бутэрброды, мы без іх абыдземся, — замітусіўся Вадзім.

Хлопчыкі скармілі котцы ўсю каўбасу з бутэрбродаў.

— А давайце яе возьмем на рэчку, бо каб прывесці яе ў норму, трэба небараку яшчэ ў халоднай вадзе спаласнуць, — прапанаваў Дзімка.

— Яшчэ скажы: паплаваць ёй трэба, — засмяяўся Вадзім. — Ты што, забыўся, што каты вады не любяць.

— Ды ведаю я гэта, — адмахнуўся Дзімка. — Але ж мы яе не будзем прымушаць плаваць, проста пакладзём у цянёк і поўсць крыху абмыем.

— Добра, бяры яе і хадзем, бо хутка і мяне прыйдзецца вадой адпойваць, як гэтую котку, — прастагнаў Мікітка.

Хлопцы рушылі напрасткі да рэчкі, так моцна хацелася ім як мага хутчэй кінуцца ў ваду і плаваць там да самага вечара. Але, стрымаўшыся, яны пачалі абмываць котку.

— А яшчэ гавораць, што каты баяцца вады, — зрабіў выснову Вадзім, пазіраючы, як Мікітка і Дзімка паліваюць котку вадой, а тая маўчыць і нават не робіць спробы вызваліцца. — Якая яна стала прыгожая, якая рыжанькая! Давайце мы яе будзем называць Рыжык.

— Рыжык — значыцца, кот, а гэта ж котка, — запярэчыў Дзімка.

— Котка дык котка, — паціснуў плячамі Вадзім. — Назавём, значыцца, Рыжуля.

І хлопчыкі, пакінуўшы жывёліну ў спакоі, кінуліся ў ваду. А калі, наплаваўшыся ўволю, вярнуліся да месца, дзе пакінулі котку, той ужо і след прастыў.

— Слухайце, мяне ўсё хвалюе думка: хто ж такое мог зрабіць? — задумліва сказаў Мікітка.

— Мяне таксама, — прызнаўся Дзімка.

— Дык давайце на тым месцы арганізуем засаду. Я недзе чытаў, што злачынцаў цягне як магнітам да месца, дзе яны здзяйснялі свае злачынствы, — таямніча прагаварыў Мікітка.

— Штосьці не вельмі ў гэта верыцца, — паціснуў плячамі Вадзім, — але паспрабаваць можна.

Хлопцы прыйшлі на знаёмае месца і заселі каля пуні. Сядзелі ціха, толькі зрэдку перашэптваліся. Чакаць доўга не прыйшлося, неўзабаве яны ўбачылі, як хтосьці ціхенька краўся да таго злашчаснага месца, дзе ляжала раней звязаная кошка Рыжуля. Яшчэ хвіліна… і хлопцы пазналі таўсцяка Толіка. А потым, калі ён узняў рукаў і вяроўку і доўга іх разглядаў, напэўна, здзіўляючыся, як гэта котка змагла сама развязацца і збегчы, выбеглі з засады і з трох бакоў падступіліся да таўстуна.

— Скажы, навошта ты ўчыніў такі здзек над коткай і чыя яна? — строга спытаў Мікітка.

Толік толькі моўчкі і неяк з-пад ілба пазіраў на хлапчукоў, а потым паспрабаваў кінуцца наўцёкі, але сябры не далі яму гэтага зрабіць.

— Прызнавайся, чыя котка? — строга сказаў Вадзім.

— Нашай суседкі, бабулі Ганны, — адказаў спалоханы Толік.

— Ах ты нягоднік, усе ведаюць, што бабуля Ганна — вельмі добры чалавек, яна, напэўна, усе слёзы выплакала, увесь пасёлак аббегала ў пошуках сваёй коткі! — закрычаў Дзімка. — Мы адразу здагадаліся, што гэта ты ўчыніў. Адказвай навошта?

***Тэрэза Кавальчук яшчэ вучаніцай друкавала ў «Бярозцы» свае дзіцячыя вершы. А цяпер працуе загадчыкам бібліятэкі гімназіі № 2 Ваўкавыска. Яна не толькі піша артыкулы для беларускіх часопісаў і выдае метадычныя дапаможнікі для настаўнікаў і бібліятэкараў, але і стварае апавяданні для падлеткаў.***

— Я, я… праводзіў эксперымент, — ціхенька, дрыжучы, выціснуў з сябе Толік.

— Што?! Які яшчэ эксперымент? — не зразумеў Вадзім.

— Правяраў, ці праўда, што кошкі самыя жывучыя і вынослівыя.

Хлопцы пераглянуліся.

— А як ты яшчэ эксперыментаваў над беднай Рыжуляй? — задаў пытанне Мікітка.

— Я яе скідваў з пятага паверха, а ёй хоць бы што, адразу ўскочыла і пабегла.

— А колькі дзён ты мучыў кошку тут? — працягваў допыт Мікітка.

— Няшмат! — спалохана прамармытаў Толік. — Усяго два дні.

— Усяго… пры такой спякоце. Ну ты і садыст! — не вытрымаў Вадзім і замахнуўся кулаком на Толіка, але хлопцы яго затрымалі.

— А давайце мы над ім правядзём такія ж эксперыменты. Спачатку на два дні закруцім у цыгейку, у мяне нават ёсць, ад бабулі засталася, я зараз збегаю, прынясу, — прапанаваў Мікітка.

— Ну так, трэба ж нам даведацца, колькі вытрымліваюць пры тэмпературы сорак градусаў такія, як ты, — дадаў Вадзім. — А потым ты, як і Рыжуля, саскочыш… ну, хоць з трэцяга паверха. Гэта будзе другі эксперымент. Ну як, хлопцы, згодны з гэтым? — І Вадзім непрыкметна для Толіка падміргнуў сябрам.

— Не трэба такіх эксперыментаў, я тату ўсё раскажу, і вам не паздаровіцца! — спалохана заенчыў Толік.

— А ты нам добрую ідэю падказаў! — усклікнуў задаволена Мікітка. — Сапраўды, навошта нам з табой тут важдацца, мы лепш пойдзем паплаваем, але спачатку адвядзём цябе да тваіх бацькоў і пра ўсё ім самі раскажам!

Хлапчукі так і зрабілі, і па твары бацькі Толіка, які адразу пасля пачутага ад хлопцаў пачаў выцягваць са штаноў шырокую скураную папругу, зразумелі, што «эксперыментатар» атрымае добры наганяй.

І сапраўды, калі яны зачынялі дзверы, то пачулі Толікаў жаласны енк. Ён, здаецца, енчыў яшчэ больш жаласліва, чым котка Рыжуля.

— Злачынства павінна быць пакаранае! — прагаварыў Мікітка.

І сябры зноў пабеглі да рэчкі.

## Аповесць-канструктар

### *Аліна Длатоўская. Арнаменты*

*Пачатак у нумарах 1—4.*

*Мастачка Наталля Длатоўская.*




Выразай па шэрым пункціры.




Складвай напалам па карычневым пункціры такім чынам, каб старонка 65 (69, 73, 77) апынулася зверху.




На апошнім этапе складзеныя напалам двойчы старонкі трэба склеіць па бэжавай лініі.

***Важна!*** Для склейвання старонак, каб яны не карабаціліся, выкарыстоўвай ***гумавы*** клей.

***Так, месяц за месяцам дадаючы новыя старонкі аповесці, ты можаш стварыць кнігу!***

***Беларускае фэнтэзі на беларускай глебе з беларускімі міфалагічнымі істотамі, першае ў сучаснай літаратуры з усёй сур'ёзнасцю да напісання — крута!***

***Беларускае фэнтэзі, дзе прыгоды не дзеля прыгод, а дзеля пошукаў адказу на пытанне: што ёсць дабро і зло і дзе мяжа між імі — крута!***

***Беларускае ЦІКАВАЕ фэнтэзі — крута!***

***Рэч свая — раз.***

***Рэч глыбокая — два.***

***Рэч займальная — тры.***

***Валерый Гапееў***



— Я хацела налавіць табе вадамерак, — праз плач вымавіла яна.

Аліса прыціснула Агнію да сябе і рушыла да берага. Добра, што тут мелка… Па беразе, нервова кусаючы кулак, хадзіў хлапец у шэрым ільняным адзенні. Адкуль узяўся? Што ўвогуле адбываецца? У вадзе агідныя дзяўчаты ў багвінні, на беразе дзіўны юнак у льняным адзенні з запраўленай за вуха цёмнай пасмай. Дзяўчына спахмурнела яшчэ больш, усведамляючы, кім можа быць гэты юнак.

Як толькі яны выйшлі, ён кінуўся да малой, яўна ўсхваляваны яе станам.

— Стаяць! — Алісе падалося, што яе тон нават халаднейшы за ваду.

Трымаючы сястру адной рукой, другой яна заляпіла юнаку звонкую аплявуху.

— Аля! — піскнула Агнія.

Хлапец жа толькі падціснуў вусны ды павярнуўся да Алісы другой шчакой.

Аліса грэбліва фыркнула і пайшла паўз хлапца дадому. Спынілася на секунду, каб перахапіць малую зручней і вымавіць апошняе:

— Каб я цябе больш побач з ёй не бачыла, пацягайла блыхасты.

***

Міраслава выйшла ў гасціную, дзе Стэфан, напяваючы нешта сабе пад нос, вастрыў арбалетныя

65

— Прыйдзецца цяпер навучыць цябе ёю не карыстацца, — стомлена вымавіў мужчына, нарэшце развязваючы юнаку рукі. — Ідзі ў свой пакой, Усевалад. Падрыхтуйся. Я буду праз дзесяць хвілін.

Усевалад нават не сказаў звыклага «Слухаюся, Настаўнік», кіўнуў галавой і сышоў.

— Няўжо я нарэшце ўбачу бязлітаснага Стэфана? — пацікавілася з усмешкай Міра. — Вы ж пакараеце яго?

Яна наўрад ці магла растлумачыць, чаму ёй гэтага так хочацца. Бясконцыя пакаранні падчас навучання выклікалі пачуццё агіды. Здавалася, што пакаранне іншым не можа быць. Але няўжо гэты бездакорны, справядлівы, уважлівы мужчына здзяйсняе яго гэтак жа брыдка, як садысты з Вучэльні? Стэфан апусціўся на канапу і закрыў твар рукамі.

— Я не ведаю. Не ведаю, ці заслугоўвае ён…

— Ён дакладна не лічыць сябе вінаватым.

— Ён і не вінаваты, — мужчына скрывіўся, нібы яго катаваў невыносны боль.

— А хто тады? Марк?

— Я.

Мужчына сядзеў, круцячы ў руках арбалетны болт, паглыбіўшыся ў думкі. Міра спрабавала яшчэ пагутарыць з ім, але ён нібыта не чуў.

— Слухайце, калі вы вырашылі не караць, мо яму варта пра гэта ведаць?

68



балты. Усевалад сёння быў у Вучэльні, паказваў што вывучыў за гэты месяц ды спаборнічаў з іншымі вучнямі.

— Я думала, вы пойдзеце глядзець, як ён спраўляецца.

— З чым там спраўляцца? Ясная справа, ён будзе малайчынкам — мая прысутнасць ці адсутнасць нічога не зменіць.

— І ён не крыўдзіцца?

— Гэта адзіны дзень, калі ён можа падурэць з сябрамі. Ён удзячны.

— І сёння вы яго зусім не кантралюеце?

— Я ўвогуле не кантралюю — я накіроўваю. Зразумейце, Міра, колькі б вы ні кантралявалі вучня, ён усё роўна будзе рабіць дурасці. Да гэтага цяжка прызвычаіцца, але давядзецца…

Міраслава здрыганулася ад раптоўнага грукату ў дзверы. Стэфан здзіўлена ўзняў бровы. На ганку стаялі два дужыя Ваяры, трымаючы за плечы Усевалада. Рукі яго былі звязаныя перад сабой, на твары бачыліся драпіны, адзенне было перапэцкана. Юнак сціскаў і расціскаў кулакі, цяжка дыхаў і глядзеў раззлавана ды пагардліва.

— Да гэтага вельмі цяжка прызвычаіцца, — узнімаючыся з канапы, выдыхнуў мужчына. — Што здарылася?

— Ваш вучань быў затрыманы за бойку, спадар Стэфан.



— Вучням дазваляецца трэніравацца такім чынам, — мужчына не зводзіў вачэй з хлапца.

— Другім быў не вучань.

— Хто ж?

— Майстар Марк.

Стэфан нічога не адказаў, аднак заўважна збялеў. Такое свавольства вельмі дрэнна канчалася, Міра гэта ведала. Не са свайго вопыту, дзякуй Богу Маланак і Навальніцы.

— Паводле правілаў ён мусіць быць публічна пакараны перад Радай Майстроў.

Хлапец узняў галаву і з выклікам паглядзеў на Настаўніка.

— Паводле правілаў для вучняў чальцоў Рады робіцца выключэнне. Так што дзякуй, далей мы самі разбяромся, — мужчына зацягнуў вучня ў хату, ляпнуўшы дзвярыма перад Ваярамі.

Уважліва агледзеў юнака ў пошуку сур'ёзных ран, праверыў татуіроўку, але не спяшаўся развязваць яму рукі.

— Цэлы?

— Мг.

— Упэўнены, што Марк не параніў цябе?

— Упэўнены, спадар Стэфан. Я выбіў у яго меч.

— Выбіў меч у Марка? Ты ж не чараваў?

Ужываць супраць ворага адразу дзве сілы лічылася ганьбай.

— Вы дастаткова добра вучылі мяне карыстацца зброяй.

— Юрась навучыў, — Хут прабегся вачамі па спісе і разгублена дадаў: — Вы задумалі немагчымае, мая панна.

Усмешка жанчыны ўмомант змянілася: стала самаўпэўненай, нахабнай, злой. Яна нахілілася, свідруючы яго пранізлівым позіркам.

— Для мяне няма нічога немагчымага, — з гэтымі словамі яна капрызна скрывіліся, адвярнулася і зноў занялася сваімі справамі.

Ён адразу ж перастаў існаваць для яе, нібы і не знаходзіўся ў гэтым пакоі. Рукі зноў лёталі над паверхняй стала, парадкуючы травы.

— Прашу прабачэння, мая панна. Калі вам патрэбна ўсё гэта? — страсянуўшы ў руках звернутую паперчыну, спытаў Хут.

— Чым хутчэй, тым лепш. У мяне няшмат часу. Ідзі, ідзі, — яна абыякава адмахнулася, не паварочваючы галавы ў яго бок. – У мяне вельмі мала часу.

***

Аліса глядзела на зоры. Праз цёмныя карункі сасновых галін яны выглядалі асабліва яркімі і халоднымі. Якім жа глупствам было думаць, што ў вёсцы ёй стане прасцей, што на пытанні знойдуцца трапныя адказы, а перад вачыма з’явіцца жыццёвы шлях! Якім жа глупствам было спадзявацца, што ўсё вырашыцца так лёгка.

Усё заблыталася, усё толькі больш ускладнілася. Агеньчык бачыць нейкі паралельны сусвет і хоча

72

Стэфан разгублена паглядзеў на яе, нібы ўпершыню бачыў.

— У гэтай сітуацыі любое дзеянне будзе памылковым.

— Тады зрабіце тое, што мусіце зрабіць як Настаўнік…

Як Стэфан, яе мужны прыгажун Стэфан можа быць такім слабым?

— Я не думаю, што ён яшчэ лічыць мяне Настаўнікам. Калі так, любое пакаранне яго ў гэтым разупэўніць. Хаця адсутнасць пакарання ўпэўніць яго ў іншым, — наверсе ляпнулі дзверы. — Ужо ўпэўніла.

На лесвіцы з’явіўся юнак, апрануты і ўзброены для вандроўкі. Наблізіўся да Стэфана, паглядзеў яму ў вочы.

— Марк не схлусіў?

— Не.

Хлапец сціснуў кулакі, у вачах заплясалі вар’яцкія агеньчыкі.

— Дзесяць гадоў, Стэфан! Ты выхоўваў мяне, вучыў змагацца з пачварамі… Насамрэч самая жудасная пачвара — ты сам!

— Вал, супакойся і паслухай мяне.

— Хопіць, наслухаўся…

Юнак рушыў да дзвярэй, але мужчына закрыў яму шлях, спакойна вымаўляючы:

— Усевалад, не рабі таго, пра што пашкадуеш.

69

— Вось менавіта, — на пальцах у юнака складанымі перапляценнямі засвяціўся сімвал моцы. — Пусці мяне, Стэфан. Я ўжо ўсё пачуў…

Настаўнік нахіліў галаву і сумна, адчайна ўсміхнуўся:

— Добра сабраўся?

— Добра, Стэфан. Бывай.

— Да сустрэчы, Свавольнік, — мужчына адчыніў перад юнаком дзверы.

— Што гэта было? Якой халеры ты яго адпусціў? — ад здзіўлення забыўшыся на ўсе рамкі, выбухнула Міра.

— Гэта нашы з ім справы, — Стэф раздражнёна сціснуў зубы і дадаў, хутчэй сабе, чым ёй: — Вернецца, нікуды не дзенецца.

## ЧАЦВЁРТАЯ

Хут акуратна прыгладзіў чуб, паправіў світку, пракашляўся, рашуча пагрукаў у дзверы.

— Адчынена, — пачулася з-за іх. — А, гэта ты… Я чакала Юрчыка.

Яна сапраўды стала яшчэ прыгажэйшай: рудыя локаны атачалі малады гожы твар, кірпаты носік гарэзліва прыўзнімаўся, а зялёныя вочы блішчэлі чараўніцтвам. Толькі ўсмешка, сумная, іранічная, выдавала ў ёй вельмі сталага чалавека. Акуратнымі



белымі рукамі яна хутка перабірала раскладзеныя на стале зёлкі, час ад часу адкладаючы асобныя кветачкі ці галінкі ў драўляную міску.

— Добры дзень, мая панна. Юрась з Агніяй, — нарэшце адказаў Хут.

— Ммм. Баіцца цяпер адыходзіць ад яе? — на твары ледзь заўважна адлюстравалася рэўнасць. — Перадай яму, што я не злуюся. Усё склалася як найлепш. Хай цяпер надае больш увагі Алісе.

— Слухаюся, мая панна.

Яна раптам адарвалася ад справы і паглядзела на яго, нахіліла набок галаву, хмыкнула, нешта абдумваючы.

— Слухай, ты выпадкова не ведаеш, дзе я магу знайсці некаторыя інгрэдыенты для чараўніцтва?

— Я — хут, — ганарліва заўважыў ён. — Чым неверагодней прадмет, тым больш верагоднасці, што я ведаю, дзе яго ўзяць.

Яна збіраецца прасіць яго дапамогі? Няўжо яна цяпер давярае яму больш, чым гэтаму кацяняці? За Юрася, канешне, крыўдна, але ён сам вінаваты…

— Выдатна! Юрась дастаткова доўга быў з табой, каб вывучыць, што такое міфічная істота, і забыць, што такое чалавек. Ён управіцца без твайго нагляду, — перад Вядзьмаркай з'явіўся аркуш паперы, спісаны акуратнымі літарамі. — Тут усё, што мне трэба. Закрэсленае я ўжо знайшла. Ты ж умееш чытаць?

— Нядаўна.

— Як гэта здарылася?

— Мяне навучыла малодшая сястра.

Юнак незадаволена цыкнуў, хітнуў галавой.

— Дзе маці ваша?

— Дома, у горадзе, — пытанні ўсё больш бянтэжылі Алісу.

— З кім вы тут?

— З дзядулем.

— А бабуля дзе?

— Няма.

— Куды дзелася?

— Ды адкуль я ведаю? Памерла!

— Калі?

— Я не бачыла яе. Адчапіся ад мяне! Хто ты ўвогуле такі? Адну ператварыў у попел, цяпер мая чарга, так?!

— Вельмі магчыма. Вельмі магчыма, хутка я вярнуся па цябе. Але пакуль дазволь праводзіць цябе да мяжы леса. Няварта совацца сюды ў такі час.

— У наступны раз прыхаплю з сабой запальнічку і кветкі.

— Гэта быў святаяннік. І запальнічка тут не дапаможа. Ды і святаяннік не кожную пачварыну адолее, — яе дзёрзкасць яго мала ўразіла.

— Навошта яе ўвогуле было забіваць? Хіба нельга па-іншаму неяк? У якія-небудзь клеткі садзіць, напрыклад.

— Дзе ж на іх усіх клетак набярэшся. Забіваць пачвар — наша праца.

76

зацягнуць туды яе. Ці сапраўды было нешта там, на возеры? Мо яна проста перахвалявалася за малую? Мо ёй проста падалося, прымроілася? Яна была надта ўзбуджаная, надта ўсхваляваная, каб дакладна адказваць за тое, што менавіта яна бачыла.

Але цяпер яна ў прытомнасці і ўпэўнена ў сваіх адчуваннях, а значыць, самы час праверыць свае «новыя звышздольнасці». У яе ўжо ёсць два складнікі гэтага вар'яцкага кактэйля: лес і ноч. Не хапае толькі якой-небудзь міфічнай істоты.

Але такая істота не прымусіла чакаць сябе доўга.

На лясной сцяжынцы між соснаў з'явілася прыгажуня, якую кожная дзяўчынка рада бачыць у люстэрку. Светлыя доўгія валасы дасягалі ўпрыгожаных залатымі бранзалетамі шчыкалатак, прыкрываючы гнуткі тонкі стан. На галаве ладна сядзеў квяцісты вянок, твар зззяў чысцінёй і цнатлівасцю. Дзяўчына танчыла і спявала, раз-пораз пазіраючы ў гушчар лесу, нібы чакаючы, што адтуль нехта выйдзе.

І сапраўды, праз паўхвіліны з-за дрэваў з'явіўся дзіўны малады чалавек. Ён быў апрануты ў скураныя нагавіцы і куртку з вышытым невядомым сімвалам, на поясе ў яго вісеў самы натуральны меч, а праз плячо быў перакінуты арбалет. Але не настолькі дзіўна ён выглядаў, наколькі дзіўна сябе паводзіў. Пустыя-пустыя зялёныя вочы не адрываліся ад постаці прыгажуні, на твары адлюстроўвалася нейкая вар'яцкая апантанасць. Напэўна, з такім тварам

73




зомбі шукаюць сабе мазгі. Ад гэтага параўнання Аліса ціхенька хіхікнула, хаця сцэна хутчэй палохала, чым весяліла.

— Хадзі да мяне, любы мой. Я буду кахаць цябе заўсёды, — таямнічая прыгажуня круціла сцёгнамі ля юнака, ледзь кранаючы рукамі яго плечы, валасы, твар.

Хлапец паслухмяна ішоў за ёй, нясмела цягнучы рукі да вабнага цела. Алісу гэта жудасна раззлавала. Урэшце рэшт, яны тут не адны! У руках юнака тым часам з'явіўся букет дробных жоўтых кветак.

— Прымі гэты сціплы падарунак, гаспадыня майго сэрца, — прамармытаў ён.

Дзяўчыну кветкі відавочна мала цікавілі, але яна вырашыла не крыўдзіць залётніка ды ўзяла букет. Яна ўжо датыкалася да кветак, а хлапец яшчэ не адпусціў іх, калі ён раптам апрытомнеў і з пальцаў яго сарваліся аранжавыя іскры. Аліса не разглядзела, ці трымаў ён у руцэ запальнічку або запалкі, але кветкі загарэліся надзіва ахвотна і ярка. Прыгажуня закрычала, замітусілася, але выпусціць палаючы букет чамусьці не здолела. За секунды яе ўсю ахутала полымя, і яна рассыпалася па вільготнай вечаровай расе шэрым попелам. Юнак фыркнуў, дастаў з кішэні маленечкую шкляначку і акуратна сабраў у яе вугалькі. Патрэс, разглядаючы, задаволена ўсміхнуўся:

— Так ты мне значна больш падабаешся. А цябе я адчуваю, так што вылазь з хованкі, — другую фразу ён відавочна адрасаваў Алісе.

74

Яна нясмела выйшла з-за дрэва.

— Ты кшталту Сэм Вінчэсцер? Геральт? Ван Хельсінг?

— Што? — разгубіўся ён.

— А-а-а, ведаю, ты ралявік! Ім жа нельга выходзіць з ролі, калі яны звычайных людзей сустракаюць.

— Хто я?

— Ну, удзельнік ролевых гульняў. У мяне ёсць такія знаёмыя. Бегаюць па лесе ў дзіўнай вопратцы і быццам забіваюць фантастычнай зброяй розных ворагаў ды пачвар. Хаця пачакай… Я жа бачыла…

— Што ты бачыла? — напружыўся малады чалавек.

— Ну, гэтую, з вокладкі часопіса для мужчын. Яшчэ яна можа здымацца ў рэкламе шампуня…

— Іх называюць зазоўкамі, — яго адначасова здзіўляў і забаўляў ейны гумар. — Яны зацягваюць маладых мужчын у гушчар і забіваюць. Мілыя стварэнні. Ладна, што ты бачыла?

— Я бачыла, як ты брудна заляцаўся да дзяўчыны, потым падарыў ёй кветкі і спаліў, як вядзьмарку! Спадзяюся, не пераблытала паслядоўнасць.

Ён імгненна наблізіўся, прымусіўшы дзяўчынку прыціскацца спінай да шурпатага дрэва. Але гэта чамусьці не напалохала яе. Аліса адчувала яго прыемны пах, цяплыню і сілу. Нібы вакол яго пульсавала энэргетычнае поле, якое адначасова абараняла хлапца і падпарадкоўвала яе яго ўладзе.

— Як даўно ты бачыш пачвар?

75

— Я не варты тваёй дапамогі, Агеньчык.

— Канешне варты, ты ж мой сябар, — цяпер ёй яшчэ больш хацелася дапамагчы, а галоўнае — зразумець, якая менавіта дапамога яму патрэбна.

Юрась адчайна пахітаў галавой, крутануў між пальцаў кінжал і рэзка ўтыркнуў яго ў зямлю.

— Трэба было пабіцца з ім. Выклікаць яго на двубой. Ён бы мяне забіў і… Але я павінен падпарадкоўвацца гаспадыні, — рукі яго нервова сціснуліся ў кулакі.

— Так, павінен! І я забараняю табе паміраць, вось што.

— Прабач, мілая, але нада мною ўладарыш, нажаль, не ты.

Вось гэта навіны! Яна яго жыць да сябе паклікала, клапоціцца пра яго, а гаспадыня, значыць, не яна. Вельмі цікава! Зусім разбэсціўся… Але злавацца зараз не хацелася — хацелася падтрымаць.

— Хто ж тады твая гаспадыня? Юрась, распавядзі мне. Калі ласка, — яна паклала далонькі на яго напружаныя кулакі і паспрабавала зрабіць дарослы выраз твару.

Малады чалавек сумна ўсміхаўся, не прыбіраючы яе рук, кусаў вусны, яўна нешта абдумваючы. Потым раптам падскочыў і лёгка, нібы пушынку, закінуў малую сабе на плечы.

— Сапраўды, хопіць сакрэтаў, Агеньчык. Ты заслугоўваеш праўды. Я вас пазнаёмлю…

80

— Не ўсе «пачвары» сапраўды з’яўляюцца пачварамі, — Аліса ўважліва паглядзела на юнака.

Нешта ў ім было чароўнае, магічнае, магнетычнае. Ён таксама ўважліва разглядаў яе. І Аля злавіла сябе на думцы, што вельмі хоча яму спадабацца.

— Не ўсе пачвары з’яўляюцца пачварамі. Але табе лепш трымацца падалей ад іх усіх, — ён загаварыў мякчэй. — Ты пакуль не разумееш, што адбываецца вакол цябе, але павер, табе лепш і не разумець. Проста з’язджай адсюль. Чуеш? Бяжы дадому, хапай сястру, збірай рэчы і вяртайся ў горад.

Ён раптам спыніўся і ўзяў яе за локаць, павярнуў да сябе:

— Паабяцай мне!

— Што? — Аліса ўжо зусім не разумела, што адбываецца.

— Паабяцай, што з’едзеш.

— Ты вар’ят! Я цябе нават не ведаю, — дзяўчына раззлавана рушыла наперад, жадаючы ўцячы ад гэтай дзіўнай размовы.

— Ты і сябе яшчэ не ведаеш, — хутка ідучы за ёй, прамармытаў юнак.

Раптам спыніўся на ўскрайку леса і схапіўся за галаву.

— Позна, каб цябе Пярун ляснуў. Позна!

— Што здарылася?

Ён расчаравана махнуў рукой у бок вясковай дарогі, па якой да леса імкліва бег даўгавалосы хлапец у льняной вопратцы. Аліса таксама была не асабліва

77

рада бачыць Юрася. Праз хвіліну і ён іх заўважыў. Спыніўся, увесь напяўся, як кот на паляванні. У левай руцэ закруціўся кароткі бліскучы кінжал. Дык у яго, аказваецца, сапраўды кіпцюры ёсць.

— Вы адзін аднаго ведаеце? – здзівілася Аліса, разглядаючы двух сваіх «выратавальнікаў».

— Завочна, — хітнуў галавой юнак, падманліва расслаблена трымаючы руку на эфесе мяча. — Позна табе з'язджаць. Значыць, яшчэ ўбачымся. Не вер нікому, калі ласка. Думай сваёй галавой. Але і сабе не вер. Да сустрэчы.

— Пакуль, — развіталася яна ўжо з пустым месцам.

Затое да яе набліжаўся Юрась. Злы, раздражнёны, нібы яго адцягалі за хвост.

— Ну што, упэўнілася ў сваіх здольнасцях? — прашыпеў ён. — Трэба табе было?

— Чаму ён прасіў мяне з'язджаць?

— Адкуль я ведаю? Хадзем дадому. Агнія там месца сабе знайсці не можа. Раве, сябе ва ўсім вінаваціць. Ні на хвіліну вас не пакінеш…

***

Агнія сядзела на траве і старанна пляла вянок з рамонкаў, час ад часу кідаючы заклапочаныя позіркі на Юрася. Той уладкаваўся на вялізным заімшэлым камяні між дзікіх каржакаватых вішань ды знервавана круціў у руках востры кінжальчык.



Малая ведала, што ўчора ўвечары адбылося нешта вельмі дзіўнае і нядобрае, праз што Аліса з Юрасём зноў пасварыліся, але ніхто так і не распавёў ёй падрабязнасцяў.

— Не крыўдуй на яе, Юрась. Яна проста нервуецца, бо любіць, каб усё было дакладна ды зразумела, — паспрабавала апраўдаць сястру малая.

— Тады ёй давядзецца нервавацца ўсю рэшту жыцця, бо так не бывае.

— Чаму не бывае? Бывае.

— Хіба толькі ў казках. Хаця не, у казках усё яшчэ заблытаней…

Юнак, спахмурнеўшы яшчэ больш, вымалёўваў на зямлі дзіўныя сімвалы. Калісьці Агнія бачыла такія на старажытных рушніках ды строях у музеі.

— Што азначаюць гэтыя арнаменты? — пацікавілася яна.

— Нічога, проста ўзорчыкі, — малады чалавек хутка зацёр іх і збянтэжана ўсміхнуўся.

— Чаму ў цябе ўвесь час таямніцы ад мяне?

— Гэта проста ўзорчыкі, клянуся.

— Ды я не пра гэта! Чаму ты не хочаш растлумачыць мне, што адбываецца? Я ж магу дапамагчы.

Малая ўважліва глядзела на хлапца. Той за апошнія дні схуднеў і нібы пасталеў, пад вачамі з'явіліся сінякі, а ля вуснаў – нервовыя складкі. Узнікала адчуванне, што ён ужо вельмі даўно не адпачываў.

— Не кажы, што табе не патрэбна мая дапамога.

# Доўгі шлях з дзіўнымі спадарожнікамі



Зноў вітаю, дарагі чытач. Так атрымалася, што я вельмі люблю ў гульнях касцяк гісторыі, глыбокіх персанажаў і цікавыя сюжэтныя хады. Усё гэта я знайшоў у «Of Orcs And Men», распрацоўкай якой займаліся ажно дзве студыі — Cyanide Studio і Spiders.

Мы так прывыклі да легенд і казак пра бліскучалатых рыцараў, якія працінаюць мячом пачвараў, але што калі найстрашнейшай пачварай выступае сам чалавек? І монстру трэба стаць героем…

Гульню можна ахарактарызаваць як цёмнае фэнтэзі. Тут не знайсці відавочна станоўчага персанажа, тут шмат жорсткасці, але ёсць месца і высакароднасці, і самаахвярнасці.

Каралеўствы людзей аб’ядноўваюцца пад адзіным кіраваннем і адзінай верай (ні з тым, ні з другім спачатку не задалося) у магічную Імперыю, якая імкнецца распаўсюдзіць сваю ўладу на Паўднёвыя землі, ваюючы з зеленаскурымі оркамі, што жывуць там. Гэта народ воінаў, які жыве кланамі. Сутнасць іх вераванняў зводзіцца да шанавання Маці Зямлі і духаў памерлых. І пры ўсёй сваёй нешматлікасці яны даюць людзям сур’ёзны адпор.

Імперыя ўзводзіць на мяжы з землямі оркаў цэлую сетку крэпасцяў, злучаючы іх велізарнай сцяной. Канфлікт заходзіць у тупік. Зеленаскурыя гінуць сотнямі на полі бою ці як рабы на будаўніцтве ўмацаванняў і гарадоў для людзей, але і чалавечым войскам не хапае сіл для хуткай перамогі. У гэты момант і пачынаецца...

Нам трэба будзе адолець доўгі шлях у суправаджэнні вельмі каларытных персанажаў — орка-воіна Аркаіла, які выконвае важную і нават крыху вар’яцкую па сваёй дзёрзкасці місію, і яго правадыра, істоты з імем Стыкс, старога наёмніка і жартаўніка. А яшчэ гобліна. Ніхто толкам не ведае, адкуль ён і падобныя да яго наогул узяліся, гэта адна з інтрыг гульні да самага фіналу. Два досыць розныя героі, з рознымі поглядамі на жыццё і мараль, яны пройдуць разам праз мноства бітваў, будуць выцягваць адзін аднаго з самай смяротнай калатнечы. І нямала зменяцца самі.

Мабыць, асноўны элемент гульні тут — тактычныя бai, падчас якіх мы выбіраем, каго з праціўнікаў і ў якой паслядоўнасці будуць атакаваць нашы пратэжэ. Спачатку сістэма навыкаў здаецца нязручнай, але да яе хутка прывыкаеш. Аркаіл уразаецца ў натоўп рыцараў ураганам лютасці, але без падтрымкі свайго спрытнага напарніка доўга не выстаіць. Персанажы дапаўняюць адзін аднаго, але ворагаў заўсёды больш і часам прыйдзецца сур’ёзна паламаць галаву, каб знайсці правільную тактыку.

Візуальна гульня досыць прыемная, як на мой густ, хоць вялікую частку часу вы праводзіце ў змрочных сутарэннях і крэпасцях. Ёсць некаторыя нараканні да анімацыі другарадных асоб людскіх персанажаў, але гэта дробязі.

Выдатная аркестравая музыка, моцны сюжэт і жахліва чароўныя героі дапамогуць прыемна забавіць некалькі вечароў.

***Вадзім Каплун***

# БЯРОЗКА

становучыя эмоцыі



*Штомесячны грамадска-палітычны і літаратурна-мастацкі часопіс (для дзяцей сярэдняга і старэйшага школьнага ўзросту)*

***Выдаецца са снежня 1924 года***

***Узнагароджаны ордэнам «Знак Пашаны»***

Заснавальнік
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова
«Выдавецкі дом «Звязда»

В.а. галоўнага рэдактара
Святлана Дзмітрыеўна Дзянісава



Адрас рэдакцыі
Юрыдычны адрас:
Рэспубліка Беларусь, 220013, г. Мінск,
вул. Б. Хмяльніцкага, 10а.
info@zvyazda.minsk.by
Тэл./факс: 8 (017) 287-19-19.

Паштовы адрас:
Рэспубліка Беларусь, 220005, г. Мінск,
пр. Незалежнасці, 39.
bjarozka@zviazda.by
http://www.maladost.lim.by/berezka
Тэл.: 8 (017) 284-85-24;
8 (017) 284-41-88.

Падпісныя індэксы:
74822 — індывідуальны
74888 — індывідуальны льготны для членаў БРПА
748222 — ведамасны
74879 — ведамасны льготны для ўстаноў адукацыі і культуры

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі № 210 ад 23.04.2013, выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь

Выдавец
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова
«Выдавецкі дом «Звязда».
Дырэктар — галоўны рэдактар
Аляксандр Мікалаевіч Карлюкевіч

Намеснік галоўнага рэдактара:
Г. П. Аўласенка
Рэдактары:
К. В. Захарэвіч, Ю. С. Ваўчок
Мастацкі рэдактар:
А. У. Галота
Тэхнічны рэдактар, камп'ютарная вёрстка:
Г. К. Кірэенка
Камп'ютарны набор:
А. Г. Кахноўская
Стылістычны рэдактар:
А. І. Саламевіч

Падпісана да друку 18.05.2016 г.
Фармат 60х84 ⅛. Друк афсетны.
Ум. друк. арк. 7,44. Ул.-выд. арк. 6,87.
Тыраж 902 экз. Заказ

Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства
«БудМедыяПраект»
ЛП № 02330/71 ад 23.01.2014,
вул. В. Харужай, 13/61, 220123, Мінск, Рэспубліка Беларусь





Клуб сяброў часопіса (які фарміруецца з кожным нумарам і складаецца з школ аўтараў, а таксама школ з найбольшай колькасцю падпісчыкаў) прадстаўлены на сайце.

*На першай старонцы вокладкі — фота Маі Рабцавай.*

## ПЫТАННІ ДЛЯ ЗНАХОДЛІВЫХ:

**1.** Якая розніца паміж блыхой і сабакам?

**2.** Калі чалавек можа імчаць з хуткасцю гоначнага аўтамабіля?

**3.** Дзе можна знайсці гарады без будынкаў, рэкі без вады і лясы без дрэў?

**4.** Бумеранг можна кінуць так, што ён вернецца, не дакрануўшыся ні да якой цвёрдай паверхні. А ці можна кінуць так тэнісны мяч?

**5.** Што сваім дзецям заўсёды дае бацька і ніколі не дае маці?

**6.** Якая рыба носіць чалавечае імя?

**7.** У бацькі Міколкі было тры сыны: Міша, Саша і… Хто ж трэці?




## «ВОЖЫК» АБВЯШЧАЕ КОНКУРС КОМІКСАЎ ПА МАТЫВАХ БАЕК КАНДРАТА КРАПІВЫ

Не менш за тры кадры і не больш за дзесяць. Фармат малюнка — А4. Ад аднаго ўдзельніка — адзін, два або тры коміксы.

Прыём работ — да 27 лістапада ў папяровым і электронным выглядзе па наступных адрасах:
200005, г. Мінск, пр-т Незалежнасці, 39
E-mail: a-vojik@yandex.by
Падрабязнасці на
**http://zviazda.by/be/edition/vozhyk**

Адказы на пытанні для знаходлівых:
1. У сабакі могуць быць блохі, а ў блыхі не могуць быць сабакі.
2. Калі ён знаходзіцца ў гэтым аўтамабілі.
3. На геаграфічнай карце або глобусе.
4. Так, падкінуць мяч уверх.
5. Імя па бацьку.
6. Карп.
7. Міколка.

Падарунак ад «Вожыка»

Часопіс сатыры і гумару

# Жвачка




*Аўтар Аляксандр Каршакевіч*

# Каляндар Бярозка

Даты і падзеі

Што ўспомніць, чым заняцца, што прачытаць

Чэрвень



2

У гэты дзень у 1743 годзе нарадзіўся граф Каліостра (сапраўднае імя Джузэпэ Бальзама) — загадкавая персона, якой прыпісваецца слава вялікага чараўніка і махляра, злодзея і па-свойму генія. Пачытай пра яго твор Аляксея Мікалаевіча Талстога «Граф Каліостра», які раней, між іншым, меў назвы «Месяцавая сырасць» і «Шчасце кахання».



3

А.С. Пушкіну — 217! «…клянусь честью, что ни за что на свете я не хотел бы переменить отечество или иметь другую историю, кроме истории наших предков, такой, какой нам Бог ее дал…». Так паэт пісаў у лісце да Пятра Чаадаева. Хто такі Чаадаеў? Пашукай, дружа, ў розных крыніцах, — і напішы сачыненне пра сяброўства Чаадаева і Пушкіна. Чакаем, каб надрукаваць!



14

Нарадзілася Гарыет Элізабет Бічэр-Стоу, пісьменніца, якая напісала знакаміты раман «Uncle Tom's Cabin». Варта прачытаць (або перачытаць) яго на канікулах. Магчыма, час «замахнуцца» на чытанне ў арыгінале. Што ў цябе па англійскай мове?



17

150 гадоў каляроваму фотаздымку. Дашлі ў рэдакцыю «Бярозкі» сваё «аб'ектыўнае» бачанне любой гістарычнай мясціны. Самыя арыгінальныя фотаздымкі з аповедамі пра аб'екты, на іх адлюстраваныя, будуць надрукаваны.



19

Дзень нараджэння Васіля Быкава. Чытаем «Альпійскую баладу», «Дажыць да світання», «Знак бяды» і «Жураўліны крык». Чытаем і разважаем…



20

У гэты дзень чатыры гады таму ў Наваполацку быў адкрыты помнік Івану Хруцкаму, нашаму знакамітаму мастаку, майстру партрэтаў і нацюрмортаў. Пад Полацкам Іван Фаміч меў сядзібу і там жа быў пахаваны, але ні сядзіба ні пахаванне не захаваліся. Наведайся ў Нацыянальны мастацкі музей, каб убачыць яго работы. На выяве — твор 1854 года «У пакоі».



22

Самы доўгі дзень года і дзень, калі пачалася Вялікая Айчынная вайна. Калі маеш у сям'і бабулю ці дзядулю, якія яе перажылі, абдымі іх моцна-моцна і падары сваю самую шчаслівую ўсмешку.

ЕАС

ISSN 0320-7579


9 770320 757007


16005



Лета — добрая прыкмета!